

Эстрадная песня ў Гайнаўцы➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



У Фальваркі і Юхновец➔9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 20 (3183) Год LXII Беласток, 14 мая 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# ДОБРАЯ ВОЛЯ Ў НОВАЙ ВОЛІ



**Праваслаўны прыход у Новай Волі 8 красавіка 2015 года заснаваў Фонд «Новая Воля». У склад управы фонду ўвайшлі асобы, якія раней працавалі таксама ў Падляшскім анкалагічным госпісе: Маргарыта Паўлючук — старшыня, айцец Яраслаў Шчэрбач — віцэ-старшыня, а таксама Анатоль Панасюк, Іаанна Шаўчэнка і Івона Палецкая. Фонд «Новая Воля» працуе ў прыхадскім будынку і ўзяў на сябе кіраванне майстэрняй працатэрапіі для сваіх падапечных. Акрамя таго фонд падтрымлівае сем'і хворых асоб, сірот, вядзе дабрачынную дзейнасць.**

— Галоўная мэта нашай дзейнасці і сустрэч у тым, — расказвае Яраслаў Шчэрбач, — каб паказаць, што людзі хворыя і з абмежаваннямі таксама ўмеюць гуляць, цешыцца, сарганізавацца. Нашы ўдзельнікі з майстэрні працатэрапіі асабліва ў тыя дні становяцца гаспадарамі. Прабуджаецца ў іх адказнасць за ўсю арганізацыю. І сапраўды. Добра з гэтым спраўляюцца. Ад пачатку заснавання фонду стараемся інтэграваць і дарослых, і моладзь, і старэйшых, каб паказаць, што мы разам можам зрабіць многа добрага.

Дабрачынны баль Фонду «Новая Воля» адбыўся 27 студзеня. Вялікія словы падзякі належацца Анатолю Тымашуку за фінансавую падтрымку, міхалоўскай «Гасподзе» за арганізацыю, Магдалене Юрчук за прафесійнае правядзенне аўкцыёну, Марыюшу Харужаму з калектывам за музычнае аздабленне, спонсарам, якія прынеслі фанты на жараб'ёўку — MOSiR Міхалова, Надлясніцтву Жэдня, медыцынскаму цэнтру «Арт-мэдыка» з Міхалова, цырульным салонам Ліліяны Усціновіч, Бэаты Магнушэўскай і Анны Кандрусік з Міхалова, фірме «Крафт» Леха Баршчэўскага, фірме «Аўто-механіка» Яраслава Ставоркі з Беластока, за смакоцце — Малгажаце Трызноўскай з Гарадка, фірме «Баё» Барбары Кулакоўскай з Валіл, іканапісной майстэрні Міхала Пякарскага са Старога Ляўкова - аграспадарам з Кухмоў-Старых, Рыгору Казберуку, фірме «Яг» Агнешкі і Рыгора Гжэгаручкоў з Новай Волі, Анне Бацэвіч з Голдапа і Лукашу Кулешу з Новай Волі.

Збіралі ўжо таксама чацвёрты раз на Збор мастацкіх формаў і, як і кожны год, адбыўся ён у Гмінным цэнтры культуры ў Міхалове. Наведала яго шмат гасцей з чатырнаццаці культурных установ, якія прадставілі свае работы.

12 студзеня прымалі ўдзел у Другім аглядзе шматканфесійных калядак, арганізаваным у Супраслі Павятовым асяроддзевым домам самадапамогі ў Лазнях. Падапечныя фонду выканалі дзве поліканфесійныя калядкі і наладзілі поўную мастацкую частку, зрабіўшы самі строі.

2 лютага некалькі падапечных майстэрні працатэрапіі ў чарговы раз падалося ў калядаванне падапечным фонду. Падчас паездкі ўдзельнікі наведалі трое падапечных фонду — Марка Байсіцкага, Юльку Харкевіч і Ірыну Бельскую, а таксама сябра фонду іканапісца Міхала Пякарскага. У традыцыйных строях з Падляшша калядавалі ў кожным доме, вакальны гурт майстэрні выканаў некалькі шматканфесійных калядак. Выканаўцы атрымалі словы падзякі і салодкі пачастунак.

10 лютага ў рамках інтэграцыі персаналу і ўдзельнікаў майстэрні быў арганізаваны кулік. Расказвае Марк з Валіл: «Надвор'е ў той дзень было прыгожае, быў лёгкі мароз і шмат сонца. З майстэрні выйшлі ў 10.00. У лесе быў ужо падрыхтаваны касцёр. Адны ўдзельнікі распальвалі агонь, іншыя арганізавалі гульні і спаборніцтвы. Вялікім атракцыёнам была паездка на санках на час. Усе шчаслівыя ўдзельнікі былі пераможцамі і атрымалі невялікія прызы. Пасля ачысткі паляны ўсе вярнуліся ў майстэрню шчаслівымі і з усмешкамі. Доўгі час дзяліліся ўражаннямі... Гэта для нас вялкая радасць — прымаць удзел у дзейнасці фонду».

Ужо ў маі мінулага года ўдзельнікі майстэрні працатэрапіі з кіраўніком і інструктарамі наведалі падапечных Фонду «Новая Воля». Падчас паездкі яны мелі магчымасць даведацца пра пацыентаў і зразумець іх інваліднасць. Завезлі ім таксама пачкі, прафінансаваныя донарамі, якія ў рамках сацыяльнай рэабілітацыі куплялі самі ўдзельнікі майстэрні. Тады афіцыйна перадалі падапечнай Юліі Харкевіч ліфт для транспарту і купання, які быў набыты за сродкі фонду.

Фонд «Новая Воля» запусціў акцыю дапамогі сям'і, што пацярпела ў пажары ў Фальварках-Тыльвіцкіх Заблудаўскай гміны. Там жылы будынак згарэў у большай частцы і не надаваўся для жылля. Пачаўся збор сродкаў, каб дапамагчы адновіць даробак усяго жыцця пагарэльцаў. Чарговым патрабуючым падтрымкі Фонду з'яўляецца **Марк** — 29-гадовы жыхар Міхалова. Марк нарадзіўся здаровым, добра развітым дзіцём, якое атрымала 10 балаў па шкале Апгар. Калі хлопчыку споўніўся год, яго бацькі памёр, з таго часу апякуецца ім яго маці. Развой хлопчыка ішоў правільна. Ён хутка навучыўся хадзіць і гаварыць. Да канца другога года маці завяла яго на абавязковую вакцынацыю супраць дыфтэрыі, слупняку і коклюшу, пасля чаго на працягу першага дня з'явіліся вельмі трывожныя сімптомы; у дзіцяці пачалася ліхаманка, з'явілася слабасць у руцэ, плячы а затым ва ўсім левым баку цела. Лекары далі яе маці надзею. Спадзявалася, што сімптомы суцішацца, але гэтага не адбылося. Марка адправілі ў Цэнтр здароўя маці і дзіцяці ў Варшаве, дзе падазравалі ў яго цэрэбральны параліч, звязаны з родамі. Толькі праз 10 год маці хлопчыка атрымала афіцыйны дыягназ: пасляпрышчэпкавы цэрэбральны параліч. Стан здароўя Марка пагоршыўся, яго цела падверглася дэградацыі, і на дапамогу было ўжо запозна. Маці дзіцяці пачала арганізоўваць рэабілітацыю па ўласным жаданні, у дзіцячай клінічнай бальніцы ў Беластоку, але пасля заканчэння васямнаццаці гадоў пра гэты варыянт не можа быць і гаворкі. Цяпер сям'я ўтрымліваецца толькі з рэнты Марка і зарплаты маці, якая працуе на паўстаўкі. Марк патрабуе пастаяннай, спецыялізаванай медыцынскай дапамогі і рэабілітацыі (па меншай меры два разы на тыдзень), што звязана з вялікім высілкам і цягне за сабой вялізныя выдаткі. Нізкі ўзровень даходаў сям'і і кватэры, размешчанай на другім паверсе, значна абцяжарваюць штодзённую працу. Дагэтуль Марк не выходзіў з кватэры. На дадзены момант найбольш важнай з'яўляецца фінансавая падтрымка сям'і, каб забяспечыць Марку пастаянную спецыялістычную рэабілітацыю.

Саракагадовая **Ірэна** з Тарнопаля Нараўчанскай гміны нарадзілася з цэрэбральным паралічам. Ён уяўляе сабой набор сімптомаў, які вызначае розныя расстройствы руху і паставы, выніккаючы з трывалага пашкоджання галаўнога мозгу на ранніх стадыях развіцця. Звязана гэта таксама з аўтызмам. Пра Ірэну клапоціцца маці, у якой сама была аперацыя з устаўленнем эндапратэза бядра, ёй таксама цяжка рухацца, не кажучы ўжо аб дапамозе дарослай калекай дачцэ. Асноўная патрэба — рамонт ваннага пакоя, таму што ў цяперашні час рухацца там у калясцы вельмі цяжка. Хворая маці таксама мае вялікія цяжкасці ў перакладванні Ірэны з інваліднай каляскі ў ванны. Патрэбнае амаль усё, ад памперсаў, сродкаў гігіены, прадуктаў харчавання і мыйных сродкаў, а таксама адпаведная адаптаваная інвалідная каляска.

**Юлька** — сямігадовая дзяўчынка, якая жыве разам са сваімі бацькамі ў Міхнаўцы, маленькай вёсцы ў Нараўчанскай гміне. Юлька ад нараджэння пакутуе ад сіндрому Рэта. Гэтае захворванне ўяўляе сабой неўралагічнае аслабленне развіцця, генетычна дэтэрмінаванае. На яго клінічную карціну складаецца шэраг захворванняў нервовай сістэмы, якія ў большасці выпадкаў прыводзяць да значнай і глыбокай фізічнай інваліднасці і істотна абмяжоўваюць магчымасць зносін з навакольным асяроддзем. Рысай сіндрому Рэта з'яўляецца цяжкая дыспраксія (у многіх выпадках, апраксія) у спалучэнні са спецыфічнымі стэрэатыпнымі рухамі ў верхніх канечнасцях. Лічыцца, што сіндром Рэта з'яўляецца адным з найбольш распаўсюджаных прычын зніжэння ўзроўню інтэлектуальнага развіцця ў дзяўчынак. У сувязі з тым, што Юлька не рухаецца сама, асноўная апека ў паўсядзённым жыцці патрабуе ад бацькоў шмат працы і намаганняў. Штодзённая рэабілітацыя і візіты ў спецыялістаў, гігіена і рэабілітацыя, інструменты таксама патрабуюць вялікага фінансавага ўкладу, які з'яўляецца значным абцяжараннем сямейнага бюджэту. Прыярытэтна патрэбны для Юлькі транспартна-купальны ліфт, які значна палегчыць штодзённае жыццё дзяўчынкі, а таксама палегчыць працу яе маці, якая, нягледзячы на свой малады ўзрост, адчувае моцныя болі, выкліканыя штодзённым высілкам. Падтрымкай будзе ўсялякая дапамога, як фінансавая, так і матэрыяльная...

У рамках пастаяннага супрацоўніцтва фонду з Асацыяцыяй «Anawoj» у новую Волю запрасілі добраахвотнікаў з Іспаніі і Румыніі, якія ў цяперашні час пражываюць у Польшчы. Разам з інструктарамі валанцёры і пацыенты рыхтавалі стравы з Іспаніі: тарцію — амлет з бульбай, гаспача (таматавы суп-халаднік). Удзельнікі працатэрапіі, як і валанцёры, ахвотна ўзяліся за працу, усе ў знакамітым настроі. У такой мілай абстаноўцы стварылі сумесны твор — іспанскія стравы, якімі ўсе маглі пачаставацца на абед. Пры працы наладзіліся цікавыя размовы, задумы, дзяліліся сваімі кулінарнымі ведамі на тэму падрыхтоўкі страў, як іспанскіх, так і тутэйшых.

З нагоды першага дня вясны, удзельнікі разам з інструктарамі зрабілі вялікую саламяную Маранку і традыцыйна яе спалілі на плошчы перад будынкам майстэрні працатэрапіі.

Дзякуючы гранту з ПФРОН у рамках праграмы пад назвай «Роўныя магчымасці паміж рэгіёнамі ІІІ у абшары Д» спонсарам удалося купіць новы аўтамабіль для перавозу інвалідаў з майстэрні працатэрапіі ў Новай Волі. Асноўнымі спонсарамі былі Анатоль Тымашук — «Лясны гатэль», і фірма «Пронар» з Нарвы.

Фонд сардэчна запрашае на V Інтэграцыйную сустрэчу ДОБРАЯ ВОЛЯ, якая будзе праходзіць 26 мая 2017 г. на тэрыторыі Майстэрні працатэрапіі ў Новай Волі. Запланаваныя атракцыёны: прэзентацыя вучэльні Аховы здароўя № 1 у Беластоку, згуртавання HAPPY DOG, Падляшша 4x4, Матацыклавай групы MotoFazers, STAG Беласток, іконы Міхала Пякарскага, рукадзелле скульптара Рыгора Казберука, прэзентацыі паліцыі, пажарнай службы, памежнай аховы, медыцынскай выратавальнай службы і Надлясніцтва Жэдня, выступы мастакоў, якія працуюць у Гмінным культурным цэнтры ў Міхалове, выступленне танцавальнага ансамбля «Малалеткі» з Белавежы, Сямейнага трыо з Макаўкі ды шоу гітарыянай рэканструктыўнай групы з Монькаў.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**



# Ланцугі і абцугі

Сёлетняя вясна выдалася ў Беларусі надзвычай дэпрэсіўнай і рэпрэсіўнай. Стужка навін з дня ў дзень стракаціць новымі адміністрацыйнымі затрыманнямі, арыштамі, штрафамі. Нейкая бясконцая чарада пераследу, жалезныя абцугі дзяржавы, якая валачэ найбольш сумленных і неабыякавых людзей краіны ў свае прафанацыйныя суды, пастарункі, казематы, засценкі і турмы. Дзікае паляванне на людзей было запланавана ў высокіх кабінетах і абвешчана галоўнымі ідэолагамі дзяржавы. Сярод такіх і асоба Генадзя Давыдзькі, старшыні Белтэлерадыёкампаніі. Менавіта ён параўнаў іншадумцаў і палітычных апанентаў улады РБ з прусакамі. А што трэба рабіць з тараканамі — канешне душыць іх. Хвалі рэпрэсій папярэднічалі менавіта такія абразы чалавечай годнасці. Па нармальнаму на гэтага дзяржаўнага чыноўніка павінна была быць пачатая крымінальная справа за абразу людзей і распальванне варожасці. Але крымінальныя справы ў Беларусі заводзяць зусім на іншых людзей, на патрыётаў, якія нічым не парушылі закон. І цяпер амаль два дзясяткі чалавек — маладых адукаваных хлопцаў — сядзяць у турме пад следствам па абсурдным абвінавачванні ў стварэнні незаконна ўзброеных фармаванняў. Калечанне іх лёсаў на сумленні ўсіх гэтых прапагандыстаў і дзяржаўных ідэолагаў. Гэта з іх падачы шукаюць чорнага ката, там дзе яго ніколі не было. Толькі сабаку, вядома, прасцей — у час калі гандаль кругом. Збрэша разок, нажарэцца касцей — кожны сваім даражыць ланцугом.

З прычыны агульнай змрочнай сітуацыі яшчэ больш агідна чытаць і слухаць тых людзей, што дэкларуюць прыхільнасць дэмакратычным каштоўнасцям і якія, як вялікія разумнікі, працягваюць бэсціць і лаяць беларускую апазіцыю. Гэтыя „вялікія разумнікі” нават не разумеюць, што сістэмнай апазіцыі ў дзяржаве, дзе закручаны ўсе гайкі, ужо не засталося і не можа быць. Што пры агульнай, дастаткова вялікай, непрымыльнасці людзьмі гэтага рэжыму і яго дзеянняў, на паверхні актыўнага ці нават дэкларатыўнага супраціву засталіся толькі адзінкавыя змагары-дысідэнты, нейкія дэмакратычныя групоўкі, адраджэнскія нацыянальныя клубы і асяродкі, якіх таксама паслядоўна „зачышчаюць”. А тое, што ў Беларусі шмат ахвярных, патрыятычных і сапраўды духоўных і нават гераічных лідараў — не выклікае ніякіх сумневаў. Павел Севярынец, Зміцер Дашкевіч, Вячаслаў Сіўчык, спіс можна доўжыць — няўжо сярод нармальных людзей знойдзецца нехта, хто пачне і ў іх кідаць камяні. Безумоўна, не. А крыкуны і тыя, хто спалохаўся пры першай жа рэпрэсіі ў дачыненні да іх, працягваюць скуголіць і выліваць балеі памыяў на галовы няшчаснай апазіцыі, якая нібы вінаватая ва ўсім.

Больш даспадобы мне людзі, якія спрабуюць прапанаваць нешта канкрэтнае, нейкую альтэрнатыву. Нядаўна адна з такіх праграм была прэзентаваная шырокаму колу. Распрацаваная яна камандай лідара даўняй нацыянальнай апазіцыі Зянона Пазьняка і называецца Народная праграма „Вольная Беларусь”. Тут, праўда, іншая бяда. Усё б добра, толькі праграма гэтая арыентаваная на развіццё Беларусі пасля змены рэжыму. Бяда ж у тым, што ніхто не можа прапанаваць дэталёвага плана самой змены рэжыму. Нават на паперы цяжка распрацаваць і прыдумаць нейкі пазітыўны сцэнарый перамен у сённяшняй Беларусі. Сваё бачанне ў фейсбуку прадставіў іншы, больш малады беларускі эмігрант — Юрась Зянковіч. Калі коратка — сутнасць яго прапановў заключаецца ў тым, што людзі павінны перастаць спадзявацца на ранейшую апазіцыю, а мусяць самі прыходзіць у яе і фінансаваць складкамі палітычных лідараў, з якіх можна будзе патрабаваць пасля справаздачы і канкрэтных вынікаў працы. Толькі план гэты таксама хутчэй адарваны ад рэальнасці і файны толькі на паперы. Як яго практычна ўвасобіць у жыццё — таксама ніхто не ведае.

Беларусь зараз, нібы карабель, які сарвала з якарных ланцугоў і панесла ў адкрытае бурлівае мора. Ці возьме штурвал у свае рукі нейкая разумная галава — застаецца толькі спадзявацца. Патоне гэты карабель, ці яго вынесе і выкіне ветрам на нейкі бераг — ніхто, на жаль, не ведае.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Слепата розуму



Я прыводжу гэта за тэлеканалам «Белсат»: літаратура на беларускай мове налічвае толькі 11,7 працэнта ад агульнай колькасці ўсіх публікацый, якія з'явіліся ў Беларусі ў 2016 годзе. Павальную большасць (мастацкая літаратура, навуковыя працы, часопісы) друкуюць на рускай мове. Гэтую шакавальную інфармацыю беларускамоўны «Белсат» не высмактаў са свайго пальца. Гэта афіцыйная заява беларускага дзяржаўнага статыстычнага ўпраўлення. Мне, паляку які гаворыць, піша і думае па-польску (але не толькі), і прытым шчыраму прыхільніку беларускай культуры, мае густое шчаціннне становіцца дыбам на галаве ад такога паведамлення. Бо як гэта так, што нацыя, якая з такім гонарам падкрэслівае сваю ідэнтычнасць, у той жа час адрэзваецца ад сваіх крыніц, пагадзіўшыся на русіфікацыю сваёй уласнай культуры? Я не магу зразумець, чаму беларусы не хочуць пісаць, чытаць, гаварыць, думаць на роднай мове. Ці, мабыць, яны хочуць толькі, каб хтосьці пераставіў як мэблю іхнюю ідэнтычнасць? Або іх розум аслеп...

З такой разумовай слепатой змагалася ў канцы сваіх дзён мая любімая бабуля Фелікса. Гэта не мела ніякай сувязі з дэменцыяй або падобным нікам старасці. Яна захавала да канца жыцця сакаліны зрок і прыроджаную дасціпнасць. Толькі страціла здольнасць абсарбіраваць змены — няхай у непасрэднай блізкасці ад яе, у хаце, ці ў непасрэднай блізкасці ад яе гаспадаркі і, такім чынам, страціла іх інтэлектуальную ацэнку. Яна проста не заўважала якіх-небудзь змяненняў у рэальнасці, трымаючы ў памяці першасны яе ўзор. Аднойчы заблукала яна ў суседнім лесе. У лесе, які яна ведала з дзяцінства, з якім яна жыла і саспела разам у паважны век. З-за хваробы ног яна не была ў ім, аднак, на працягу некалькіх гадоў. У той час часткова была ссечана старадаўняя хваіна, пусткі абраслі самасейкамі дубоў і арабін. Змены ў асяроддзі былі адносна малыя, але праекцыя лесу ў свядомасці бабулі аказалася быць цалкам несумяшчальнай з яго рэальным відам. Па гэтай прычыне, думаю, бабуля страціла арыентацыю. Я знайшоў яе праз некалькі гадзін пошукаў, усяго ў 50 метрах ад вёскі. Гэта была першая прыкмета яе псіхічнага асляплення. Я зразумеў, што гэта прагрэсіруючы працэс. Таму я вырашыў паправіць лад у бабулінай кухні, перастаўляючы старэнькую мэблю якая застыла ў ёй дзесяцігоддзямі ў адных і тых жа месцах. Вось шкапчык — які быў таксама столікам, у якога шуфлядках бабуля трымала хлябец, пажаўцелае сальца, і сталовыя прыборы ды посуд — пераехаў з-пад акна пад сцяну насупраць. Там я таксама прыставіў бабуліна любімае крэсліца. Кухня з перастаўленай мэбляй здавалася быць больш прасторнай і функцыянальнай. Бабуля спачатку не заўважыла змен. Вярнуўшыся з агарода, як звычайна, яна прынесла з сабой кошык з летняй гароднінай. Як заўсёды, паставіла яго туды, дзе заўсёды, на шкапчыку, што стаяў каля акна... І тут бабах! Не знайшоўшы падтрымкі, кошык упаў на падлогу. Пазней было яшчэ горш. Бабуля мела звычай ставіць на шкапчыку тазік з цёплай вадой, каб памыць посуд пасля ежы. З'елі мы абед, а як жа, на новым месцы. Бабуля не прадставіла ніякіх пярэчанняў нарэшце наконт гэтага. Але ў яе розуме шкапчык упарта стаяў каля акна. І зноў бабах! Міска з вадой і мокнучым у ёй посудам прызямлілася на падлозе. Калі ў той жа дзень бабуля паспрабавала скрэбці на адсутным шкапчыку маркоўку на суп на вячэру, я вырашыў, што прыйшоў час вярнуцца да папярэдняй устаноўкі. Прызнаюся, мне было сорамна. Бабуля на працягу доўгага часу задавалася пытаннем, чаму ў гэты дзень усё падала ёй з рук.

Разумовая слепата не з'яўляецца хваробай, а толькі нямогласцю. Тым не менш, гэтае ацвярдзенне характэрна для розумаў у гадах або з прыроджанай уладнасцю. І гэта, і другое я знаходжу ў асобе прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У Польшчы — у Яраслава Качынскага. Іншая справа народы. У гэтым выпадку разумовая слепата гэта не недастатак. Гэта сур'ёзнае захворванне. Захворванне, якое, аднак, можа быць вылечана.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Першамайская бульба

Доўгія, майскія выходныя напалохалі ўсіх аматараў адпачынку сваім холадам. На двары занадта не было як разагрэцца і таму не было аж такога вялікага грыляння ў грамадстве. Хаця з усіх тэлевізараў ліліся рэкламныя вобразы і словы, якія проста прымушалі чалавека адразу бегчы ў краму і купляць грылевыя прылады і мясныя наборы. Адным словам складвалася ўражанне, што той, хто не будзе грыляваць, не ведае як па-сапраўднаму адпачываць. Проста такая мастацкая карціна пад загалоўкам «Майскі пасляабедзенны час з грылем у фоне». Аднак у гэтым годзе дым і пах з грыляў не перагрызлі вострага, марознага паветра. Затое надалей трэба было паліць у печках і камінках, каб не сядзець і спаць у халодных сценах. Людзі на вёсцы корпаліся пры нейкіх хатніх парадках, бо агародаў ніхто пакуль з-за сырасці і холаду не ў змозе закласці. Пацяпленне пры канцы мінулага тыдня разбудзіла толькі надзею на сапраўднае цяпло, але нядзельныя, дажджлівыя ліўні справу агародаў і пасадку бульбы адклалі ізноў на далейшыя дні. Не наеліся і валы на Юр'е травіцы, бо яна проста яшчэ не вырасла.

Пра мінулыя першамайскія шэсці амаль ніхто ўжо не ўспамінаў, а менавіта яны вызначалі найчасцей час пасадкі бульбы. Таму, калі я на мінулым тыдні падарожнічаў па Беласточчыне, то менавіта ў падляшскім краявідзе не хапала проста той усёй мітусні, звязанай з працамі пры пасадцы бульбы. Перад вачыма ўсплылі вобразы з маёй маладосці, маючы на думцы відочных на палях дзясяткі коней і людзей з кошыкамі і пах гною, змешанага з водарам квітнеючых садоў. Сапраўдная мяшанка такой інтэнсіўнасці пахаў, якія застаюцца з чалавекам на доўгія гады. Той, хто памятае яшчэ як смярдзіць і тая гнілая бульба, калі выбіралі яе з ямак для пасадкі, то менш устойлівым да ўсіх гэтых пахаў магло проста стаць мотошна.

Таму, калі першамайскія шэсці сталі абавязковымі ў нашых школах і настаўнікі везлі нас у Гайнаўку дзеля аднае мэты, то такая патрата кожнай пары рук у такім гарачым моманце вясковых палявых прац выклікала незадавальненне нашых бацькоў. Часта проста яны нас пакідалі дома і ад раніцы ўсе завіхаліся пры той жа рабоце. А калі ўжо пусцілі ў тую Гайнаўку, то абавязкова паўтаралі, каб адразу вярталіся як найхутчэй дадому, а не лазіць абы-дзе і абы-чаго па горадзе. Ну, зразумела, варыянт першамайскага шэсця быў для нас, жэўжыкаў, значна больш прывабным і прыемным, чымсьці бацькоўскае патрабаванне наконт аддавання сваіх сіл для маці-карміцелькі.

У ліцэйскія часы сустраканне першага мая неад'емна спалучалася з першым каштаваннем забароненых пладоў у выглядзе выпівання ў сяброўскай кампаніі піва ці некалькіх глыткоў віна. Ну і вядома, што ў час такога зборышча ў адным месцы хлопцаў і дзяўчат, быў гэта і момант для ўзаемных жартаў і нават першых назіранняў за дзяўчатамі, патэнцыйнымі першымі аб'ектамі кахання. Таму ад такога накаплення ў адным месцы юнацкіх эмоцый, вядома, вяртанне дахаты адбывалася апошнім, а не першым цягнікам. Пра бацькоўскія рэакцыі на такі ход падзей лепей змаўчу. Адно магу сказаць: наступныя дні не былі лёгкімі — у фізічным і духоўным разуменні. Грахі трэба было адпрацаваць павышанай колькасцю хатніх заняткаў. Але ўспамін прыемнага дазваляў пераносіць і самае цяжкае.

З перспектывы часу можна сказаць, што менавіта той лозунг, пад якім ішлі ўдзельнікі першамайскіх шэсцяў, а менавіта «Першае мая — свята працы», па поўнай сваёй назве дасloўна рэалізаваўся ў гэты дзень не рабочымі на прадпрыемствах, а сялянамі пры пасадцы бульбы. Менавіта тымі аднаасобнікамі, што ад раніцы да ночы кожным днём цяжкай працай змагаліся за выжыванне і будучыню. А бульба была не толькі важным спажывецкім прадуктам у жыцці сялянскай сям'і і хатняй жывёлы, але ў пэўны момант на нашых пясчаных землях стала сур'ёзнай крыніцай фінансавага прыбытку. Сістэма кантрактацыі бульбы і патрабаванні спажывецкага рынку Савецкага Саюза прычыніліся да такога росту плантацый бульбы, што восеньская ўборка бульбы расцягвалася пад два месяцы. Вельмі часта капалі яе ў даждж і холадзе. І тады адзін ці два дні першамайскай пасадкі бульбы явіліся проста як прыемны і не дакучлівы ўспамін. А восеньскія мяшкі з бульбай, перакінутыя сотні разоў сваімі рукамі, вызначалі выразна і адчувальна цяжкасць сялянскага жыцця.

**Яўген ВАПА**

# 10 гадоў

## Студыі эстраднай песні ГДК

**Здымкі з Мартай Грэдаль друкаваліся ў «Ніве», калі яна была вучаніцай Гайнаўскага белліцэя і выступала ў беларускім калектыве «Знічка». Прадоўжыла яна адукацыю ў музычных школах і, вярнуўшыся ў свой горад, у лютым 2007 года заснавала Студыю эстраднай песні Гайнаўскага дома культуры. Выпускніцы студыі сталі выступаць на высокім мастацкім узроўні, здабываць прызавыя месцы на агульнапольскіх і міжнародных конкурсах ды фестывалях. Вучаніцы гайнаўскіх школ сталі спяваць таксама на беларускай мове, а калектывы і салісты Студыі песні ГДК часта займалі першыя месцы і не раз атрымлівалі ўзнагароду гран-пры Конкурсу «Беларуская песня», які ладзіць БГКТ. 29 красавіка ў канцэртнай зале Гайнаўскага дома культуры спаткаліся цяперашнія члены гайнаўскай студыі песні, яго выпускніцы, запрошаныя госці і шматлікія гайнавяне, каб адзначыць юбілей Студыі эстраднай песні ГДК, у якой на працягу дзесяці гадоў займалася каля 60 дзяўчат і зараз выступае больш за 20 асоб.**



■ У Студыі эстраднай песні Гайнаўскага дома культуры займаюцца дашкольніцы, вучаніцы і студэнткі



■ Апякунка Студыі эстраднай песні ГДК Марта ГРЭДАЛЬ-ІВАНЮК

— Маё прафесійнае жыццё я спалучыла з музыкай. Праца з дзеткамі і моладдзю дае многа задавальнення. Я рада, што сваімі ведамі магу дзяліцца са здольнымі маладымі вакалісткамі. З музыкай я жыву ад наймалодшых гадоў. Сваё захапленне музыкай я рэалізавала ў музычных і танцавальных калектывах Гайнаўскага дома культуры і ў вакальным калектыве «Знічка» Гайнаўскага белліцэя. Умеласці і веды я разгортвала пад наглядам выдатных выкладчыкаў Музычнай акадэміі ў Беластоку і Быдгашчы, — паінфармавала апякунка Студыі эстраднай песні ГДК Марта Грэдаль-Іванюк.

У 2014 годзе атрымала яна званне «Заслужаны для Гайнаўскага павета». Дыпломы і ганаровыя граматы, якія атрымалі калектывы і салісты Студыі эстраднай песні ГДК, а таксама фатаграфіі красаваліся на прымеркаванай да юбілею адмысловай выставе. Частка архіўных здымкаў дэманстравалася публіцы на вялікім экране.

Юбілейнае мерапрыемства адкрыў дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч, які цёплымі словамі прывітаў членаў Студыі эстраднай песні ГДК, яе музычнага кіраўніка Марту Грэдаль-Іванюк, а таксама гасцей і шматлікую публіку. Сабраныя мелі магчымасць паглядзець кароткі фільм пра Студыю эстраднай песні ГДК. Ужо ў 2007 годзе ў студыі стала займацца Марлена Бяглюк, якая зараз вучыцца ў Варшаве, але па суботах спатыкаецца са сваімі сяброўкамі ў ГДК і рыхтуецца да чарговых выступаў.

— Я многаму навучылася ў студыі. Будучы вучаніцай Гайнаўскага белліцэя я стала спяваць у беларускім калектыве «Знічка». Рада я, што выступала і ў студыі, і ў «Знічцы», бо ад удзелу ў абодвух калектывах засталіся незабыўныя ўражанні, — распавяла Марлена Бяглюк, якая падчас юбілею праспявала сола па-беларуску твор «Два сэрцы».

Усе калектывы студыі захапілі сабраную на юбілеі публіку. Найстарэйшы калектыў Студыі песні ГДК (вучаніцы звышгімназічных школ і студэнткі) па-акцёрску праспяваў твор «Вечна жывi мая Беларусь». Калектыў «Лямонкі» (вучаніцы пачатковых школ) атрымаў бурныя апладысменты за твор «Беларусь — наша песня», а «Малое ГДК» (гімназісткі) — за песню «Касіў Ясь канюшыну». У лютым гэтага года падчас Агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня — 2017»«Студыя эстраднай песні ГДК заняла першае месца. Вучаніцы з калектываў «Малое ГДК» і «Лямонкі» неўзабаве прымуць удзел у конкурсе беларускай песні для дашкольнікаў, вучняў пачатковых школ і гімназій.

— Наша пані Марта з'яўляецца добрым музычным апекуном і перш за ўсё добрым чалавекам, які стварыў нашу студыйную сям'ю. Атмасфера ў студыі дапамагае вучыцца і працаваць яшчэ больш. Я люблю спяваць на роднай мове. З калектывам «Малое ГДК» мы заваявалі гран-пры Конкурсу беларускай песні ў Бельску, а індывідуальна я займала першыя месцы, — заявіла Марыя Савіцкая з Непублічнай гімназіі свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, якая штотыдзень ужо пяць гадоў прыязджае з Беластока на заняткі ў ГДК. У сакавіку гэтага года Марыя Савіцкая заняла першае месца падчас Агульнапольскага фестывалю песень Анны Янтар у Глоўне.

— Асаблівай увагі сярод выканаўцаў гайнаўскага раёна заслугоўвае Студыя эстраднай песні ГДК, якая выступае на фестывалі «Беларуская песня» на вельмі высокім узроўні і асаблівыя словы ўдзячнасці належацца апекуну студыі Марце Грэдаль-Іванюк за яе працу ў карысць прапагандавання беларускай песні, — сказаў віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень падчас сёлетняга гайнаўскага раённага агляду Фестывалю «Беларуская песня».

Падчас юбілейнага канцэрта ў цікавай аранжыроўцы прэзентаваліся песні на польскай, беларускай і ўкраінскай мовах, якія займальна спявалі тры калектывы Студыі эстраднай песні ГДК і салісты. У студыі сталі таксама займацца дзве дашкольніцы. Перад публікай выступілі таксама былыя члены студыі разам з найстарэйшым яго калектывам. Акампанемент спевакам саставіў інструментальны калектыў, які склалі Пшэмыслаў Залеўскі, Данель Капустка, Кацпар Сталярчык, Блажэй Хахароўскі. Госцяй юбілею была Агнешка Кавальская, якая ў канцы канцэрта па-акцёрску заспявала сола і разам з усімі дзяўчатамі студыі.

— Я ўжо тры гады займаюся ў гайнаўскай студыі песні і вельмі рада, што магу тут удала рэалізаваць свае музычныя захапленні. Наш рэпертуар багаты, але для мяне важна, што мы спяваем на беларускай мове, паколькі мне асабліва блізкая беларуская культура, — заявіла гайнаўская белліцэістка Анна Бяляўская, удзельніца найстарэйшага калектыву студыі, якая нядаўна стала лаўрэаткай Алімпіяды беларускай мовы.

— Я спяваю ў студыі пяць гадоў. Навучылася спяваць сола і ў групе. Люблю спяваць па-беларуску. Беларускія песні спяваю таксама ў калектыве ў Пачатковай школе № 3 у Гайнаўцы, — сказала Зося Філіпюк з калектыву «Лямонкі».

— Мы ў студыі песні займаемся як у адной вялікай сям'і, да якой я ахвотна вяртаюся, — заявіла Юліта Ваўрашук, выпускніца Гайнаўскага белліцэя, якая зараз вучыцца ў Вакальна-акцёрскай студыі ў Беластоку. У сакавіку гэтага года здабыла яна ўзнагароду падчас фіналу XXXVIII Агляду акцёрскай песні ў Вроцлаве.

Юбіляры атрымалі віншаванні, падарункі, у тым ліку і грашовыя, ганаровыя граматы і многа кветак. Працаўніцы Маршалкоўскай управы ў Беластоку і заадно прадстаўніцы падляшскага маршалка Ежы Ляшчынскага звярнулі ўвагу на стыпендыятак маршалка са Студыі эстраднай песні ГДК, якія былі прадстаўлены публіцы. Віцэ-староста Гайнаўскага павета Ядвіга Дамброўская перадала пажаданні ад гайнаўскага старасты Міраслава Раманюка. Старшыня БГКТ Ян Сычэўскі адзначыў высокі мастацкі ўзровень выканання беларускіх песень і перадаў студыі грашовую ўзнагароду. Бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак падзякаваў Студыі эстраднай песні ГДК за прамоцыю горада ў краіне і замежжы ды ўручыў грашовую ўзнагароду (5 тыс. зл.). Намеснік бургамістра Андрэй Скепка заявіў, што ягоным самым вялікім поспехам у перыяд, калі быў дырэктарам ГДК, лічыць прыём на працу Марты Грэдаль, якая стварыла Студыю эстраднай песні ГДК. Сама Марта Грэдаль-Іванюк дзякавала дырэктарам ГДК Андрэю Скепку і Расціславу Кунцэвічу, гайнаўскім бургамістрам і ўсім тым, хто дапамагае студыі. Анна Васькоюская з Беластока, мама дзвюх удзельніц студыі песні Касі і Марты Васькоўскіх, якіх штотыдзень трэба прывозіць на заняткі з Беластока ў Гайнаўку, выявіла задавальненне, што яе дочкі ўдала разгортваюць свой музычны талент пад наглядам Марты Грэдаль-Іванюк.

— Удзел дачок у студыі песні патрабуе ангажаванасці таксама ад нас, бацькоў. Калі яны выступаюць сола, трэба вазіць дзяцей на выступы ў розныя гарады. Аднак варта гэта рабіць, маючы на ўвазе поспехі нашых дачок і тое, што яны могуць тут рэалізаваць сваё захапленне спевам, — сказала гайнавянка, мама Олі і Ганны Волчык, якія займаюцца ў гайнаўскай студыі.

❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Весткі з Арлянскай гміны

На сесіі арлянскай Гміннай рады 31 сакавіка г.г. войт Пётр Сэльвесюк паінфармаваў:

«Высеклі (у міжсесійны перыяд) дрэвы і кусты на гмінных нерухомасцях у вёсках Спічкі, Шчыты-Навадворы і Кашалі ды падсеклі кроны дрэў на вуліцах у Орлі. У рамках кампенсацыйных пасадак пры вясковых святліцах у Дыдулях, Вульцы-Выганоўскай, Градалях, Малінніках і на гульнявой пляцоўцы ў Кашалях пасадзілі агулам 350 штук дрэўцаў туі. Гэта рэалізацыя абавязацельства, звязанага з дазволам бельскага павятовага старасты на высечку дрэў пры спортпляцоўцы ў Кашалях ды пры святліцы ў Міклашах. Калі высякаем, трэба садзіць новыя, неабавязкова ў тым самым месцы».

* * *

2 сакавіка г.г. з'явілася інфармацыя, што заява на фінансавую падтрымку праекта павелічэння турыстычна-адпачынковай атракцыйнасці шляхам ладжання месц для актыўнага адпачынку ў мясцовасцях Малініцкі, Міклашы, Вулька-Выганоўская, якая была прадстаўлена Лакальнай групе дзеяння «Белавежская пушча», успрынята станоўча і праект атрымае дафінансаванне. Пасля падпісання дамовы будуць абвешчаны таргі на пабудову гульнявых пляцовак з прыборамі — міні-трэнажорамі «пад хмаркай».

* * *

Падрыхтавалі дакументацыю для заяўкі на дафінансаванне фотавольтных мікраўстановак і сонечных калектараў у Арлянскай гміне. Спадзяюся, што атрымаем дафінансаванне на новыя прыборы для вытворчасці электра- і цеплаэнергіі на аснове сонечнай энергіі. Паводле перадумоў заяўкі, дафінансаванне мае сягаць 70% коштаў праекта. Рашэнне мае быць прынята ў ліпені. Установкі будуць размешчаны на прыватных дамах, зараз для гэтага закваліфікавана 101 гаспадарка. Цяпер апрацоўваюцца індывідуальныя дакументацыі для кожнага дома.

* * *

У сакавіку г.г. злавілі 5 бяздомных сабак у Малінніках і Градалях. Можа гэта і нямнога, але за кожнага сабаку плацім па 1 800 злотаў, разам 9 тысяч. У мінулым годзе на лоўлю і ўтрыманне ў прытулку выдалі 36 тысяч злотаў.

На гэта азваўся Антон Голуб, солтыс з Дыдулёў: «Плацім за вылоўліванне сабак. Зараз маем афрыканскі мор свіней, птушыны грып, ёсць забарона ўпушчаць сабак у аборы, але ніхто не забараніў выпускаць сабак навонкі ўладанняў. Тыя сабакі, не толькі бяздомныя, ходзяць усюды, па лясах. І не дай Бог, калі б сабака ўвайшоў у зону афрыканскага мору свіней. А ў нас сабакі недатыкальныя».

**Ад аўтара:** На ахову бяздомнай звярыны Арлянская гміна прызначыла ў 2017 годзе 47 тысяч злотаў. Дамова заключана з прытулкам у Радысах каля Піша.

## У Бельск завітае газ

Пра ідэю газіфікацыі Бельска гаворыцца здаўна. Еўрасаюз ставіць новыя задачы таксама ў галіне абагравання.

Перад Вялікаднем у бельскай Гарадской управе адбылася сустрэча гарадскіх улад і бельскіх прадпрымальнікаў з прадстаўнікамі Польскай газавай суполкі. Суполка ў бліжэйшыя дзесяць гадоў хоча выдаткаваць на інвестыцыі 12 млд. злотаў, у тым ліку і на рэгазіфікацыйную станцыю, якая будзе пастаўляць паліва вялікім атрымальнікам, у тым ліку прадпрыемствам.

Інвестыцыя можа доўжыцца некалькі гадоў. Яшчэ сёлета пачнецца пабудова газаправоднай сеткі для індывідуальных атрымальнікаў у Бельску-Падляшскім.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Зацікаўленне краязнаўствам у Орлі

**Вучні Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Арлянскай зямлі ў Орлі цікавяцца сваім рэгіёнам, пазнаюць і берагуць культуру сваёй малой айчыны. Паспяхова ладзяць выставы, арганізуюць сустрэчы, ствараюць дакументальныя фільмы, удзельнічаюць у конкурсах. Гэта заслуга дырэкцыі і паасобных настаўнікаў. Размаўляю з Дар'юшам ГАРАДЭЦКІМ, настаўнікам геаграфіі, краязнаўцам, запалоненым гісторыяй Арлянскай зямлі, старшынёй праўлення Фонду EDM, які займаецца лічбавым архіваваннем іканаграфічных матэрыялаў датычных Арлянскай гміны.**

### — З чаго бярэцца такая вялікая ангажаванасць?

— Зацікаўленне мінулым рэгіёна, мясцовай геаграфіяй і гісторыяй звязана часткова з маёй адукацыяй, я — географ. Пасля штудыяў у Вышэйшай педагагічнай школе ў Кельцах трапіў я ў зусім іншы рэгіён, у іншае месца, з якім раней не меў дачынення, сутыкнуўся з людзьмі, якія размаўляюць крыху інакш, у якіх іншая рэлігійная абраднасць. Мясцовасць Ланьцут, у якой я жыў, гэта ў прынцыпе ўсе паляк-католікі.

1992 год, калі я трапіў на Падляшша, быў пераломным у маім жыцці. Тут сустрэў крыху іншых людзей — добрых, спрыяльных, паслужлівых, мілых — і жыву тут ужо дваццаць пяць гадоў. Погляд на гэтых людзей да гэтай пары ў мяне не змяніўся і спадзяюся, што не зменіцца.

Усё пачалося ад маёй працы ў Комплексе прафтэхвучылішч у Гайнаўцы, дзе з 1994 да 2006 года па рашэнні дырэктара вёў я школьнае кола Польскага турыстычна-краязнаўчага таварыства (ПТТК). Былі рэйды, экскурсіі і сустрэчы. Цягам нейкага часу быў нават у праўленні ПТТК, дзе таксама ладзілі розныя турыстычныя мерапрыемствы, арганізавалі розныя конкурсы для моладзі. Першым этапам гэтай глыбіннай працы з моладдзю быў конкурс „Знаёмімся з бацькаўшчынай"; дарэчы, гэты конкурс праводжваецца надалей у розных узроставых групах. Першай конкурснай працай была даведка пра магілкі ў Нараўцы, якую напісаў мой тадышні вучань Войтэк Пацэвіч. Праца не прабілася да прызоў, але з таго часу я больш стаў цікавіцца рэгіянальнай гісторыяй, пачаў больш чытаць, збіраць інфармацыі, выразкі з газет, дакументы, фатаграфіі. І так пачалося. Пазней былі чарговыя працы, якасныя, за якімі пайшлі поспехі і вылучэнні ў агульнапольскім маштабе. З гэтай моладдзю ўжо ўдавалася дабівацца на цэнтральны этап.

Пазней, у 2006 годзе, калі я стаў дырэктарам Комплексу школ у Орлі, новым маладым дырэктарам, паставіў я перад сабою задачу пакласці большы націск на рэгіяналізм у нашай школе. Узнікла тады школьнае рэгіянальнае кола, знайшлася група настаўнікаў — Бэата Гарадэцкая, Галіна Рошчанка, Міраслава Раманюк, Альжбета Цюлькевіч, Анна Баршчэўская і я — якая спраўна запусціла гэтае кола ў рух, якая пачала дзейнічаць у рамках пазаўрочнай актыўнасці.

Дзейнасць разгарнулася ў розных напрамках. Сталі ладзіць сустрэчы, выставы, пачалі ўзнікаць фільмы, некаторыя працы былі заяўлены на конкурсы. І так усё пачало набіраць размаху, з'явіліся поспехі, якія станоўча нас стымулявалі да больш змястоўнага дзеяння. І з перспектывы тых дзесяці гадоў працы школьнага кола магу заявіць, што наладзілі мы тых мерапрыемстваў звыш сотні. Былі арганізаваны шматлікія выставы, сустрэчы з цікавымі людзьмі, паказы фільмаў, паездкі па мясцовасці і г.д. Беручы пад увагу шматлікасць, складана было б іх усе назваць; усё ж такі некаторыя: у 2006/2007 навучальным годзе сустрэча з Анатолем Краўчуком, мастаком з Крывой; Анатолем Такаюком і Рыгорам Петрашком, якія запрэзэнтавалі драўлянае сакральнае будаўніцтва Карпат; Пятром Нестаровічам, знімаючым дакументальныя фільмы пра наш рэгіён. У 2007/2008 годзе: сустрэча з Іаннай Корх, якая зачытала лекцыю „Элементарныя бедствы на Падляшшы". У 2008/2009 годзе: сустрэча з Веславам Врублеўскім — сынам міжваеннага дырэктара арлянскай школы; Іаанна Корх паказала мультымедыйную прэзентацыю пра Беластоцкае ваяводства. У 2009/2010 годзе: сустрэча з Аляксандрам Сасной, які прадставіў тэму „Праваслаўныя цэрквы на старых паштоўках". У 2011/2012 годзе сустрэча з пажылымі жыхарамі і г.д.

Штогадова пад нашым кірункам паўстаюць фільмы, якія дакументуюць блізкія нам падзеі, звязаныя з мясцовай тэрыторыяй і людзьмі. Пасылаем іх на конкурсы, арганізаваныя рознымі ўстановамі: міністэрствамі, няўрадавымі арганізацыямі ці культурнымі цэнтрамі. Многія гэтыя фільмы прыцягваюць увагу ў агульнапольскім маштабе і займаюць відныя месцы. Узнік праект „Бацькаўшчына — ад народзін да смерці". Выдалі кніжку.

Знялі шмат фільмаў; для прыкладу: „Асталася толькі сінагога" — першае месца ў катэгорыі мультымедыйных прац у Агульнапольскім моладзевым краязнаўчым конкурсе „Пазнаем Бацькаўшчыну" (2007/2008); „Падляшскі каравай"; „Яны былі нашымі суседзямі" — цыкл сямі фільмаў, прысвечаных памяці арлянскіх яўрэяў (2008/2009); „Калегі са школы — знаёмыя з суседства" — першае месца ў агульнапольскім конкурсе; „Знахары, шаптухі, бабкі" — першае месца на ваяводскім этапе і другое на агульнапольскім; „Яны пражывалі ў Орлі" — другое месца ў агульнапольскім конкурсе (2009/2010); „Хобі ў калейдаскопе пор года" — першае месца на ваяводскім этапе; „І ў Орлі было кіно" — другое месца на ваяводскім этапе, другое месца ў агульнапольскім конкурсе на найлепшую анімацыю (2011/2012); „Курэнне школ дзіць здароўю"; „Мая бабуля Зоя" — узнагарода на цэнтральным этапе...

### — Як змянялася моладзь?

— Можна сказаць, што на працягу звыш дваццаці гадоў маёй педагагічнай працы вельмі змянілася. Сёння моладзь ставіць большы націск на пазнанне свайго асяроддзя — прынамсі тая моладзь, з якою я маю дачыненне. Яны ведаюць адкуль выводзяцца, ведаюць хто яны, і гэта аблягчае выбар іх жыццёвых азімутаў. Вядома, што не ўсе, але вялікая група, якая з намі супрацоўнічае, мае ўжо выразна пастаўленыя свае мэты.

Наша дзейнасць мае шматвектарны характар. Былі праекты для тых, што лепш спяваюць, лепш танцуюць, маюць мануальныя здольнасці, лягчэй засвойваюць больш інфармацыі — конкурсы грунтаваныя на ведах. Усё павінна адбывацца на гульнёвых прынцыпах, бо шляхам гульні, радасці лепш прысвойваюцца ўсялякія інфармацыі.

Ёсць праекты, якія пачынаюцца і канчаюцца ў межах нашай гміны і яны маюць, галоўным чынам, закрануць вызначаную групу атрымальнікаў: моладзь і дарослых. І пажылых жыхароў гміны, бо яны вельмі важныя ў рэгіянальных праектах, бо без іх яны не задзейнічалі б. Гэта ад іх чэрпаем інфармацыі, яны перадаюць свае жыццёвыя веды, роздумы, тэксты песень, апісваюць колішнія абрады і звычаі. Без тых ведаў культурны стрыжань моладзі быў бы кволы. Да таго ж варта звярнуць увагу на тое, што ў розных мясцовасцях, нават суседніх, тыя звычаі адрозніваюцца хаця б нейкімі тонкасцямі. І гэта таксама паказвае, што кожная грамадскасць мае свой непаўторны характар. Гэтыя непаўторнасці складваюцца на своеасаблівую цэласць, якая фармуе маладога чалавека.

### — Як жа так, што мінулае сыходзіць, яго не будзе, узнікае нешта лепшае, новае краязнаўства?

— Думаю, што так, як змяняецца свет, як змяняецца асяроддзе, некаторыя рэчы мусяць аджыцца. Іх месца зоймуць новыя, але нельга забываць, што тое новае мае свае карані ў старым. Гэтак і ў чалавечым жыцці — чалавек змоладу мае свае жыццёвыя ідэі, якія пасля выпраўляе звычайная шэрая штодзённасць. Гэтак жа як і звычаі, пра якія можна сёння сказаць, што аджыліся, але мы яшчэ намагаемся іх аднаўляць; магчыма, што за дваццаць-пяцьдзясят гадоў пра некаторыя будзем чытаць адно ў кніжках. Як цягам апошніх пяцісот гадоў змянілася Орля, гэтак жа зменіцца і тое, што маем сёння. Мусіць, такі закон жыцця. Ніхто сёння не хацеў бы вярнуцца, напрыклад, у 1930-я гады і жыць у тадышніх хатах, якія на той час здаваліся мадэрнымі.

Праца з моладдзю гэта адна справа, а вось з 2006 года нам удалося прыцягнуць Марка Хмялеўскага ды Міхала Мінцэвіча і ў выніку нашага супрацоўніцтва было выданне кніжкі „Орля — гісторыя запісаная карцінай", дзе звыш чатырохсот здымкаў жыхароў Орлі да 1945 года. Сёння гэта рарытэт, варты перавыдання.

Вынікам прыцягнення іншых асоб з'яўляецца заснаванне Фонду EDM з мэтай лічбавізацыі і архівавання ўсялякіх іканаграфічных матэрыялаў датычных Арлянскай гміны. Ідэя заснавання Фонду нарадзілася ў 2015 годзе. Я тады разам з Маркам Хмялеўскім удзельнічаў у асяродку „Карта" ў курсах архівавання здымкаў і дакументаў грамадскага жыцця. А пакольку сабраныя мною цягам гадоў здымкі, сабраныя галоўным чынам ад жыхароў Орлі, захоўваюцца ў камп'ютары — шмат з іх яшчэ нявыкарыстаных — дык узнікла думка заснаваць фонд, якога задачай было б архіваванне сабраных матэрыялаў з мэтай пазнейшай іх папулярызацыі. Фонд далучыўся да групы грамадскіх архіваў, гуртуючых звыш чатырохсот таварыстваў і фондаў пад патранатам асяродка „Карта", якія працуюць бескарысліва, дзеля апрацавання супольнай стратэгіі аб'яднанага дзеяння, дзеля супольнага здабывання неабходных сродкаў на лічбавізацыю. Працу можна выконваць бясплатна, але трэба яе выконваць з прымяненнем нейкай тэхнікі, якая каштуе. Мы атрымалі бясплатную праграму для лічбавізацыі, а цяпер уводзім здымкі і іх апісанні. Верагодна на працягу года атрымаем дадатак да гэтай праграмы, які перадасць тыя здымкі на сервер. Паводле маіх ацэнак зараз маем сабраных каля чатырох тысяч здымкаў, а з іх ліку каля тысячы дакладна апрацаваных. Я раблю гэта з захапленнем дзеля ўласнага задавальнення і ў карысць рэгіёна і Айчыны. Спадзяюся, што гэта ў будучыні камусь прыдасца.

Размаўляў **Міхал МІНЦЭВІЧ**

Рэдакцыя «Нівы» дзякуе Спадарыні прафесар **Лене Глагоўскай** за апрацоўку і падрыхтоўку да друку ваенных успамінаў былога нашага карэспандэнта Францішка Берніковіча, які не па сваёй волі сваё дарослае жыццё пражыў на Мазурах у Польшчы.

# **Францішак Берніковіч.** Успаміны і запісы (1)



## У беларускай школе

17 верасня 1939 года Чырвоная Армія вызваліла Заходнюю Беларусь, якая ад 1920 года была пад панаваннем Польшчы. Хутка паявілася беларуская адміністрацыя і пачалі адкрывацца беларускія школы. Адной з іх была новапабудаваная школа ў Мосары, якую і я будаваў, а пасля стаў яе вучнем. А гэта дзякуючы таму, што дырэктар Іван Плешкун пазнаў мяне на курсах прызыўнікоў яшчэ перад вайной як абавязковага, пільнага да навукі чалавека. Гэта ён сказаў мне: «Франак, адкрываем беларускую няпоўнасярэднюю школу, якая будзе называцца НСШ. Тых, хто закончыў польскую пачатковую школу, прымаць будзем у чацвёрты клас беларускай школы». І так да 22 чэрвеня 1941 года я закончыў шэсць класаў НСШ, добра авалодаў беларускай мовай. Аднаго дня жонка дырэктара прасіць мяне як сказаць па беларуску «jednocześnie», я гавару «адначасова». «Дзякую Табе, Франак», — сказала.

У чэрвені, калі пачыналася нямецка-савецкая вайна, я і мае сябры Янак, Міхась, Пётра закончылі шосты клас сярэдняй школы. На маю прапанову 23 чэрвеня ў гонар нашых поспехаў рашылі арганізаваць Купалле над ракой Маргвой у Сцюдзянцы — так назвалася месца над ракой, дзе быў высокі аброслы травой абрыў, а ўнізе над ракой была невялікая круглая паляна. Вось гэтае месца выбралі мы на арганізацыю Купалля. Гэта была мая першая праца, якую я выканаў з сябрамі Янкам Букам, Міхасём і Пётрам ды дзяўчатамі Касяй, Віцяй, Фэльцяй і Стасяй ды Аняй. Мы асабліва рашылі адзначыць заканчэнне вучобы ў НСШ. Быў цёплы, сухі чэрвень. Ночы былі ясныя, цёплыя. Хоць чуткі даходзілі пра ваенныя дзеянні, у нас было ціха, спакойна. І таму я і мае сябры і сяброўкі рашылі арганізаваць начную ўрачыстасць — Купалле. Месца выбралі супольна з Янкам у Сцюдзянцы на рацэ Маргве. На высокім абрыве можна было выгодна сесці і глядзець, што робіцца на пляцоўцы вакол вогнішча. Хутка на круглай палянцы над ракой паявілася вогнішча. Збоку красаваўся пастаўлены на кійку бел-чырвона-белы сцяг — гонар нашага народа і наш гонар — маладых патрыётаў Беларусі. Дзяўчаты заняліся віццём вянкоў з кветак, якіх надзіва ў гэтым годзе было шмат. Пачаліся пры вогнішчы дэкламацыі вершаў беларускіх паэтаў (Купалы, Францішка Багушэвіча верш «Песня»). Тут вялікую ролю адыграў наш класны дэкламатар Міхась Качан. Дзяўчаты таксама не скупіліся сваім удзелам. Пятрык вёў скокі праз вогнішча. І тут было найбольшае зацікаўленне. Было многа смеху. Прыгожа выглядала наша Маргва, калі з цячэннем вады паплылі вянкі са свечкамі ў кірунку Калачыкоў — гэта ўжо Вінцэнтаўская частка ракі. У 24 гадзіны ўсе гуртам сабраліся шукаць у папаратніку кветку шчасця. Мы, хлопцы, добра ведалі месца, дзе расце папараць. Нехта з нас кінуўся ў ваду. Хвіліну часу спатрэбілася, каб выпіць ліманад ды крыху гарэлкі і з'есці тое, што нашы дзяўчаты прынеслі на гэта свята. Аднак думалася нам, што дзесь вядуцца цяжкія баі. І, пасля кідання дзяўчатамі вянкоў, рашылі ціха разысціся па дамах сваіх і не сваіх.

## На Французскай гары ў ліпені 1941 года

Многія дні вельмі моцна грымела. Відаць, дзесьці недалёка былі ваенныя сутычкі. Усе гаварылі, што ідзе бой за Дунілавічы. І вось у адно паабеддзе ліпеньскага дня па дарозе Мурзы — Мосар пачала сунуць калона нямецкіх салдат. Многія пабеглі на Французскую гару, каб убачыць нававызваліцеляў. Пабег і я, і цэлая вёска Падваронцы. Каля Французскай гары немцы затрымаліся. Пачалі пры самаходах галіцца і мыцца.

## Палітычная сітуацыя ў Беларусі ў 1941-1944 гадах

Пасля прыходу немцаў у Беларусь насельніцтва адносілася да іх з нейкай дозай сімпатыі. Аднак сітуацыя пачала мяняцца з прыходам у Беларусь цывільнай нямецкай улады. Яна дапусціла, што адміністрацыя апынулася ў руках палякаў. І паліцыя стала польскай. Меўшы ўладу ў сваіх руках, адміністрацыя і паліцыя скіравалі свой удар супраць свядомых беларусаў. Абвінавацілі іх перад немцамі як камуністаў, а тыя, не разглядаючы спраў, расстрэльвалі іх і вешалі. Яшчэ горш абыходзіліся з яўрэйскім насельніцтвам, якое спярша зганялі ў поле, званае гетам. Такое гета ўзнікла ў Глыбокім. Накладалі на яўрэйскае насельніцтва кантрыбуцыю, каб сцягнуць золата і дарагія рэчы. У гэтых справах чынны ўдзел прымала польская паліцыя, якая добра ведала мясцовых яўрэяў. Увосень 1941 года пачаліся масавыя расстрэлы яўрэяў. Немцы супольна з польскай паліцыяй знішчылі Глыбоцкае гета. Глыбокае асталося без яўрэяў. Ад восені 1941 года палітыка немцаў пачала мяняцца, калі іх саюзнік — польская паліцыя пачала пераходзіць да польскай партызанкі — АК. Увосень 1941 года немцы ствараюць Беларускую народную самапомач, якая пачала весці беларускае нацыянальнае жыццё ў розных галінах: сацыяльная апека, арганізацыя беларускіх школ і паліцыі, а пасля прымала актыўны ўдзел у арганізацыі беларускіх узброеных сіл — Самаахова і першага пяхотнага батальёна ў Глыбокім.

## Візіт на хутар

Насталі прыгожыя чэрвеньскія дні 1942 года. Прыгожа выглядаў наш хутар. Пад Падваронцамі красаваўся высокі лан жыта. Добра параслі пожні нашага Гульнішча. У садзе на яблынях і грушах было многа завязі будучых фруктаў. Вось у чэрвеньскае цёплае паабеддзе, калышучыся ў сваім цікавым ходзе, прыбывае Адась — грамадскі солтыс. Падыходзячы да мяне — я быў у гародзе — кажа:

— Франька — так называлі мяне ў сям'і і ў вёсцы — цябе бяруць у беларускае войска, якое паўстае ў Глыбокім. Заўтра ты мусіш замельдавацца ў Пастаўскім старостве, — і дае мне позву.

— Заўтра перад абедам замельдуйся ў старостве ў Паставах.

З позвай, неяк усхваляваны пабег я да бацькі і гавару:

— Тата бяруць мяне ў войска, — і паказваю позву.

Тата змяніўся на твары і спытаў:

— Калі ідзеш?

— Заўтра перад абедам, — адказаў я тату. — А сёння мушу схадзіць у Зялезькі.

У Зялезьках меў я добрага сябра, але меў і дзяўчыну. Крыху задумаўся тата:

— Так сынок! Калі будзеш у мундзіры жаўнера, старайся паступаць добра, хоць не заўсёды мо гэта ўдаецца. Але прынамсі не рабі дрэннага.

Даю наша беларускае слова і пачынаю збірацца ў Зялезькі. Ідучы ў Зялезькі, заглянуў на месца ў рацэ, дзе першы раз паплыў. «Калі я яшчэ раз тут пакупаюся?» — падумаў я з жалем і памкнуўся ў Зялезькі.

У Зялезьках Янку Буку застаў дома. Ён крыху збянтэжыўся, што мяне не спадзяваўся.

— Праўду кажучы, я не спадзяваўся сёння быць у цябе.

— А што сталася?

— Бяруць мяне ў беларускае войска.

Неяк Янка змяніўся на твары і моцна задумаўся.

— Калі ідзеш у Паставы? — толькі спытаўся Янка і зноў задумаўся.

— Заўтра перад абедам іду ў Паставы.

Янка Бука — хлопец з суседняй вёскі Зялезькі. Мушу тут дабавіць, што ў шосты клас хадзілі хлопцы з Мосара, Варанцоў — я, Чэслаў Пачкоўскі, Францішак Пачкоўскі, ды з суседняй вёскі Зялезькі — Янка Бука. Ён быў малодшы за мяне. Мяне чакала войска, а яму пару год яно не пагражала. Ён жыў на канцы вёскі з бацькамі. Адкрыццё беларускай школы ў Мосары гэта быў адзіны выхад з цяжкай сітуацыі. Яму трэба было кожнага дня зрабіць 10 км у Мосар і дамоў у Зялезькі. Дарогай са школы ў Варанцы вярталіся разам.

## У Паставы і ў Глыбокае

Выбраўся я з дому каля 10 гадзіны. Адыходзячы, убачыў слёзы ў вачах таты і мамы. Дарога ў Варапаева была мне добра вядомай — па ёй вазіў я ў млын пшаніцу. У Варапаеве быў я каля поўдня. Аставалася яшчэ вялікая дарога перада мною. Не ведаў я яе, але была яна адна аж у Паставы. Сонца пачало схіляцца да захаду. «У Паставы нельга з'яўляцца ні ўвечар, ні ноччу», — падумаў я. Трэба будзе дзесьці пераначаваць. І так у вёсцы Каўзаны я вырашыў зайсці да солтыса і папрасіцца на начлег. Солтыс ахвотна завёў мяне ў хату да гаспадара. Гаспадар ветліва прыняў мяне. Пачаў гаворку са мною.

— Гэтага яшчэ не было, каб бралі ў беларускае войска, — казаў.

Я пачаў збірацца да сну і ў гэту хвіліну раздаўся стук у дзверы. Адкрываюцца дзверы і бачу ў іх солтыса з нейкім хлопцам. Хлопец кінуўся мне на грудзі.

— Што сталася Янка? — спытаў я.

— Ды нічога. Я рашыў разам з табой ісці ў войска.

Пацалаваў я яго і сказаў: «Добры ты сябра». Радасць ахапіла мяне. Цэлую ноч не заснуў. Рана ўсталі, падзякавалі за начлег і вячэру, і пайшлі далей — у Паставы. Прайшлі яшчэ адну вялікую вёску — Юнькі і зараз жа Паставы.

У старостве прыняў нас сам староста Скурат. Ён добра валодаў беларускай мовай — відаць, адукаваны быў чалавек.

— Вы, хлопцы, пераначуеце тут, а заўтра рана завязем вас у Глыбокае. Калі пачулі мы «Глыбокае», не дакучала нам непраспаная ноч без пасцелі. І прыйшоў ранак наступнага дня. Скурат прыйшоў да нас і кажа: «Цяпер хлопцы ідзём на вакзал, цягнікам паедзем у Глыбокае». Значыць, служыць будзем у сваім родным Глыбокім. І шпарка пайшлі мы на вакзал. Цягнік меўся адходзіць пазней. Леглі мы на лаўкі, каб праспаца. У гэты момант прыходзяць два хлопцы: Состлік з Дунілавіч і другі з Варапаева — нашы хлопцы.

## У Глыбокім 5 ліпеня 1942 г.

Пасля прыезду з Пастаў памясцілі нас у кляштары пры царкве. Мы атрымалі вайсковую вопратку зялёнага колеру з залацістымі гузікамі ў мундзірах і плашчы. Адразу пачаліся заняткі з муштры. Падзялілі нас на дружыны і звязы. Кожны дзень звязам выходзілі ў пустое поле на тактычныя заняткі. Над маёй дружынай камандзірам быў немец з Гдыні, нейкі Тарлінске. Заняткі ішлі спраўна. Горш было з маршам звязу. Не мелі мы беларускай маршовай песні і на загад: „Песня!" спявалі мы „Камандзір Чапаеў". Немцам яна вельмі падабалася, але нас, патрыётаў Беларусі, брала на ваніты.

Аднаго дня мы з Янкам пайшлі да арганіста пры касцёле, але і ён не меў такой песні, каб можна было спяваць у маршы. Немцы мелі клопат з нашым першым звязам. Сфармаваць цэлы батальён не маглі — не было дзе памясціцца. Кляштар быў замалы. Рашылі звяз выслаць у Менск і там сарганізаваць паліцэйскі батальён — нібы беларускі, але камандзірамі былі немцы.

У гэты час з Глыбокага прыйшла вестка, што арганізуецца там батальён Самаховы. Меў гэта быць школьны батальён, дзе камандзірамі былі беларусы. Камандзірам батальёна быў Лазараў. І на гэту вестку мы рашылі цэлым звязам паехаць у Глыбокае. Якая была радасць Лазарава, што будзе мець добра абучаны звяз, які будзе выконваць ахоўную службу ноччу, а ўдзень будзем займацца вывучэннем беларускае тэрміналогіі, структуры вайсковых адзінак. І так: звяно, дружына, звяз, рота, батальён. У нашым звязе існавалі мінамётнае звяно, санітарнае звяно і разведвальнае звяно. У кастрычніку школьны батальён быў распушчаны і ўсе жаўнеры атрымалі водпуск да патрэбы.

## На першы сход БНС

Неяк позняй восенню 1941 года сустракае мяне ў вёсцы Адась — наш грамадскі солтыс, які лічыўся пасрэднікам паміж гмінай і вёскай Варанцы ды другімі.

— Франька, цябе хочуць у гміне бачыць на сходзе, — і падаў дату.

У вызначаную дату я падаўся на сход пяшком — на Сушкі, вакол возера Пліса. У гміне не быў я першы. За сталом сядзеў Воўк Казімер, бацюшка з Асінагарадка і ксёндз з Барэек. Гаворка ў іх ішла на беларускай мове. Як цудоўна на беларускай мове гаварыў ксёндз з Барэек! Рашылі мы зборкай збожжа дапамагчы галадаючым беларускім гарадам. Я падаў дату, калі буду збіраць у Варанцах. У вызначаны дзень я запрог сваю кабылку і пачаў аб'язджаць вёску. За дугу зачапіў бел-чырвона-белы сцяжок і паехаў па вёсцы збіраць збожжа. Пазнаў, як ахвярна адносяцца нашы людзі да кожнай беды. Не спадзяваўся я, што гэтулькі трэба будзе везці збожжа: два мяшкі жыта, мяшок пшаніцы і паўмяшка аўса. Старшыня гміннага БНС падзякаваў мне за карысную для народа працу. Быў я вельмі задаволены з першай добра выкананай грамадскай працы. І тут у гміне ўпершыню даведаўся, што ў Менску выходзяць беларускія газеты.

(працяг будзе)

Францішак БЕРНІКОВІЧ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі



# «Беларуская песня» і новыя знаёмствы!

Багдан Астапчук з дочкамі Аняй і Юлітай

У сям'і Астапчукоў спявалі пры кожным свяце. Спявалі менавіта беларускія песні. І хаця дзяўчынкі не маюць магчымасці вывучаць беларускую мову, іхні бацька, Багдан Астапчук, штогод рыхтуе сваіх дачок да конкурсу, прыязджае з імі на адборачныя спаборніцтвы і падтрымлівае іх. Менавіта для Ані і Юліты такога тыпу конкурс гэта месца, дзе сустракаюць аднагодкаў, з якімі можна загаварыць «па-свойму» — па-беларуску. Падрыхтоўка да конкурсу гэта працэс: бацька вучыў песень, бабуля пашыла народныя беларускія ўборы, якія памятае са сваёй маладосці. Дзяўчынкі перад конкурсам заплялі косы і папраўлялі пашытыя бабуляй фартушкі. Файна, што такога тыпу конкурсы даюць новыя знаёмствы. А новыя, фейсбукавыя кантакты завязваюцца дзякуючы конкурсу «Беларуская песня», які ладзіцца ўжо амаль чвэрць стагоддзя БГКТ.

(уш)

**Вікторыя ПАТОНЕЦ**
Старое Ляўкова,
Гімназія ў Нараўцы

## Прыгожая дзяўчына

Была раз дзяўчына прыгожа,
як кветка ў агародзе цвіла,
але выходзіць замуж не можа,
бо маці згадзіцца з ёю не хоча.

Яна сядзела цэлыя дні
і ўсё распачала,
і маці сваю, і лёс праклінала.

Яна мела ўжо хлопца,
які быў надта прыгожы,
высокі, малады, гаваркі
і меў яшчэ і сінія вочы.

Маці дзяўчыну замуж выганяла,
але дзеўка аднаго толькі хлопца кахала.
Падумала ўцячы з хаты праз акно
і сустрэцца з любым у хаце яго.

Хлопец кажа: «Ты мая! Не аддам цябе нікому!»
Дзяўчына падумала: «Не аддам сэрца другому».
Дзяўчына хлопца моцна кахала
і патаемна з ім сустракалась.

Не мінуў адзін год,
як хлопец дзяўчыне
запрашэнне на вяселле прынёс.

«Прабач мне, татка мне так загадаў!»
А дзяўчына так яму адкажа:
«То ж ты мой, а я твая!»
«Што ж з таго,
калі мне ўжо жонка выбрана».

Пайшла дзяўчына над рэчку
у час Купалля, слязьмі аблілася.
Ніхто яе больш не бачыў,
відаць, ад роспачы ўтапілася.



Моладзь з тэатральнага гуртка пры Гайнаўскім доме культуры

## Вершы Віктара Шведа



### Любяць кветкі матылі

Чаму матылі любяць кветкі
На нашых вясковых палетках?
Яны там заўсёды сядаюць
І нечага заўжды шукаюць.

Вядома, эліксір салодкі
Іх пошукаў заўсёды сродкам.
У доўгім лычыку маюць
Помпку, што нектар ссысае.

### Павук сетку прадзе

Павук сетку прадзе
У спакойным куточку.
Можа сюды пападзе
Муха — глядзяць яго вочкі.

Ліпкая сетка заўжды
І мусе няма паратунку.
Яна ўжо ў няволі, тады
Павуку яна будзе ласункам.

## УВАГА КОНКУРС! № 20-17

Вось загадка невялічка:
ходзяць брацік і сястрычка.
Яна міргае штораз,
брат грукоча ў адказ.
Г... і М......

(У. Мацвеенка)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 28 мая 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

### Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 16-17: мурашнік. Узнагароды, кніжкі Эвы Сусы «Снежны чалавек у Мінску», выйгралі Міхал Казімерчык з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку і Іаанна Злобіна з Арэшкава. Віншуем!

# БЕЛАРУСКІЯ ПРЫГОДЫ СНЕЖНАГА ЧАЛАВЕКА!

**СНЕЖНЫ ЧАЛАВЕК** з пракавечных часоў жыве ў пячоры высока ў гарах, дзе снег ніколі не растае. Пра гэта ведаем з кніжак шведскай пісьменніцы Эвы Сусы. І вось яе герой небывалым шляхам трапіць у Мінск. Тут ён паселіцца ў снежным заносе на плошчы Перамогі і нават завядзе сяброўства са школьнікамі Барысам і Алесем. Наш герой прывітае іх на сваёй мове: ЕЦІН ПЛЕЦІН ДОБР!



У кніжцы «Снежны чалавек у Мінску» надта важны настрой. Можна сказаць, што кніжны Мінск — сталіца нашых мар. Тут усе ўсім дапамагаюць, частуюць смачным кісялём, дапамагаюць вярнуцца дамоў. І ўсе размаўляюць на роднай мове. Ужо за адну сцэну вы палюбіце гэтую шведска-беларускую кніжку і нашых герояў.

*— Спыніць рух! — загадаў міліцыянт і стаў перад Снежным чалавекам. — Нельга ісці пасярэдзіне дарогі, няўжо не зразумела? Можна ж трапіць пад машыну, і будзе аварыя.*

*Снежны чалавек заўважыў, што гэта была жанчына. Яго мама знікла ў завею, калі Снежны чалавек быў яшчэ немаўлём, і з таго часу яны жылі з дзядулем, савой і казой. Каза была, вядома, дзяўчынка, але гэта ж не тое самае, што чалавек. Пах і голас міліцыянткі спадабаліся Снежнаму чалавеку:*

*— ЕЦІН ПЛЕЦІН ПЛАК, — сказаў ён і паглядзеў на яе з вялікім здзіўленнем.*

*— Гаварыце, калі ласка, па-беларуску, — сказала міліцыянтка строга. — Інакш я вас не зразумею...*

Цікава і нечакана! Нашы чытачы зразумеюць шведскія гісторыі, дзякуючы беларускаму перакладу Дзмітры Плакса. Выданне, з культавай падсерыі *Каляровы ровар*, упрыгожваюць арыгінальныя малюнкі Кацярыны Дубавік.

На канец найлепшая навіна: кніжку «Снежны чалавек у Мінску» можна выйграць у конкурсах «Зоркі».

**(гак)**

Эва Суса, *Снежны чалавек у Мінску*, Мінск: «Кнігазбор», 2016.



Алесь ГУРЛО

## НАШЫ ПТУШКІ

У нашым краі — Беларусі —
Ёсць буслы, сарокі, гусі,
Качкі, чыбісы, саколкі,
Чаплі, совы, перапёлкі,
Каршуны, сіваваронкі,
І шчыглы, і жаваронкі,
Галкі, крумкачы, вароны,
Галубочкі, нахахлёны,
Дзятлы, чыжыкі, зязюлі,
Кулікі, сяўцы, жаўнулі,
Шпакі, зяблікі, цяцеры,
Курапаткі пер’ем шэры,
Ластаўкі і верабейкі,
І сініцы, салавейкі,
Сойкі, пігліцы, удоты,
Што лятаюць без ахвоты.
Каля рэчак, на лужайках
Ёсць глушцы, стрыжы і чайкі,
І вядуцца на балотах
Жураўлі ў густых чаротах;
Па падворку, каля хаты,
Ходзяць куры й кураняты.
Хто сакоча, хто кудача,
Хто па стрэхах спрытна скача,
Хто па кусціку ў садочку,
Хто па полі, хто ў лясочку,
Хто высока ў паднябессі
Моўчкі ўецца або з песняй:
Пачнуць хорам — не здзівіцца.
Ёсць дзе пець і весяліцца.

## Польска-беларуская крыжаванка № 20-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 16-17:**

Бант, там, цот, вяселле, вясёлка, на, сама, сі, сон, жаба, гара. Баран, аса, на, Об, вясна, мяса, сёмы, цела, толк, на, атлас, іва.

Узнагароды, фламастары для азначэння тэксту, выйгралі **Марыя Кардзюкевіч, Дам’ян Карнілюк, Магдалена Якубюк** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Віялета Смалюк** з Арэшкава, **Алівія Верамчук, Аляксандра Юзафовіч, Агнешка Зданоўская** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Тамаш Петручк, Марыя Урбановіч** з Нарвы, **Кінга Леўша** з Нараўкі. Віншуем!








**Міхал КУПТЭЛЬ**
*Сопат*

## Слімак

*Слімак*
*адправіўся ў падарожжа*
*на спатканне лёсу,*
*якраз праз дарогу*
*— шырокую.*
*Каб*
*фактычна праверыць*
*адну з тэорый*
*статыстыкі*
*або*
*праўдападобнасці*
*— удасца, яго выйгрыш*
*і ўсё іншае,*
*як то ў жыцці,*
*не ўдасца*
*такая ўжо яго доля*
*і выбар*
*вандраваць якраз*
*па шырокай дарозе*

## Май

*Так рэдка маёвіцца*
*чалавечае жыццё.*
*Толькі раз у год*
*маем май.*
*Толькі раз у год*
*ёсць як бы рай.*
*Ды ўсё маёвае*
*І сонца,*
*і зялёнае надвор'е*
*і блакіт неба.*
*Дзе ўсё вясёлае.*
*А трэль салаўя*
*ў глыбокую ноч*
*зачынае будзіць*
*не толькі прыроду*
*але і ўсіх спячых,*
*бо шкада ночы на сон,*
*бо толькі раз у год*
*так трэліць салавей,*
*бо толькі раз у год*
*маёвіцца чалавечае жыццё.*

## Моцарт

*Калі так слухаю Моцарта*
*.........................................*
*Калі так слухаю*
*то як бы воблакам*
*я плыў над бельскай*
*раўнінай*

*Калі так слухаю Моцарта*

*Калі так слухаю*
*То як бы*
*Моцарт наведаў*
*маю Гайнаўшчыну*
*слухаў гукаў*
*маёй бацькаўшчыны*
*і запісаў мелодыяй*
*— Моцарта*

*Калі так слухаю Моцарта*
*Калі так слухаю*
*То ў яго музыцы*
*лаўлю*
*ўсе гукі майго жыцця*

## Пахілая бяроза

*Расла была калісь тут*
*у маёй вёсцы*
*пахілая бяроза*
*як знак часу*
*як знак памяці*
*і як знак дзяцінства.*

*За пахілай бярозай*
*чаго там не было*
*гумно, свіран, хата,*
*агарод поўны варыва,*
*садок з яблынямі, грушамі, слівамі,*
*тата, мама,*
*гоман сямейны*
*і шчасце*
*ў такім абмежаваным свеце.*

*Было, вяртаюся з далёкага*
*ці блізкага падарожжа,*
*пахілая бяроза*
*вітала ветліва.*

*А зараз*
*няма пахілай бярозы*
*няма дому*
*няма нікога.*
*Бяроза засталася ў памяці*
*і ў гэтым вершы.*

## * * *

*Мне здаецца*
*што жыву ў міжчассі*
*ў мінулым часе*
*і ў часе будучым.*
*Мінуўшчына і будучыня*
*гэта іншая семантыка,*
*таму што мінуўшчына — гісторыя*
*а будучыня*
*гэта віртуальная рэчаіснасць.*
*Пакуль што жыву*
*ў міжчассі штодзённасці.*



**Яўген АЛЕМПЯЮК**
Тыхы

## Было

Сёння маем Задушкі, а ў нас «Дзядушкі» на Падляшшы. У нас ішлі на могільнік у Зубачы. Гэта стары могільнік. Тут пахаваны людзі розных нацыянальнасцей, ад грузінаў да іспанцаў. Ёсць там магілка Грэты-Сімоны, побач нямецкага генерала і яго няні. Тая Сімона была вельмі прыгожай, кажуць, варажэйкай. Захапляліся ёю вернікі ад Ваўкавыска да Васількава. Памерла, мабыць, хтосьці ў гэтым ёй дапамог. У праваслаўі не было такога, каб палілі цела на кастры, дык хоць пахавалі яе тварам да зямлі — гэта было для яе пакаранне мясцовага благачыннага. Калі эмоцыі прыціхлі, хтосьці знайшоў запіскі Варвары-шаптухі, што калі мужчына пацалуе магілку Сімоны, дык ніколі яго не пакіне кабета, не будзе мець праблем у ложку, непатрэбныя яму будуць афрадызіякі ці нейкая віагра. Калі я гэта расказаў у маёй краме ў Сілезіі, адразу назбіралася ахвотных, каб ехаць на Падляшша і знайсці тую цудадзейную магілку! Кажуць, наведвала яе таксама Сімона Косак, таму што тая Сімона — патронка ўсіх Сімон.

## Мая настаўніца Зоя

Мая сапраўдная гісторыя з беларускай мовай пачалася ў чэрвені. Само цвіў лён. Можна было ўжо купацца ў нашай разлітай рэчцы. Чэрвень — час уцёкаў з урокаў. Каб перайсці праз рэчку, трэба было ісці на кладку. Група хлапчукоў разбеглася па пойме. А Міхась пайшоў уплаў. Праз момант настаўніца пані Зоя сцягнула сукенку і кінулася ў рэчку за вучнем. Стала пры кладцы. А мы, змярцвелыя, узіраемся на яе прыгожыя грудзі і на выстаючыя з майтачак валасінкі! Пасля лета стала яна маёй выхавацелькай. Была яна аб'ектам прагі шматлікіх дарослых кавалераў. Адным з яе паклоннікаў быў адзін кавалер, як казала мая цёця Марыя, з самога роду Багатыровічаў. Восенню прынёс ён у клас кошык яблык са свайго вялікага саду. Запахацела на ўвесь клас! На перапынку мы падкралі нашай пані гэтых яблыкаў — напэўна, бачыла гэта, але нічога не сказала. Прыйшла зіма. Вітак Багатыровіч запрагаў тройку коней у сані, гнаўся з паняй з бразгатаннем бубенчыкаў, а мы ім махалі шапкамі. Былі зімой гучныя забавы і раўты. Думалі мы, што вясной будзе вяселле Зоі і Вітка. Пара была ўлюбёнай на языках усёй ваколіцы. Але мясцовыя гусі кепска ім жадалі. Найгорш жадалі яго бацькі — Зоя была беднай беларускай дзяўчынай, а з падданай не выпадала жаніцца — гэтак вялося ў даваенных эліт... У другім класе стала для нас пуста. Пані Зоя выехала з вёскі і больш нас ніколі не наведала. А яе ўхажор згінуў на матацыкле. Для нас гэта быў шок. А дастаўся нам новы настаўнік, званы яшчэ здавайны «Навасільцавым». Можна спадзявацца, які ён мог быць настаўнікам і выхавацелем!

# У Фальваркі і Юхновец

**У гэтае падарожжа павалокся я з цікавасці практычнага значэння. Менавіта задумаў я знайсці дарогу, па якой адносна бяспечна было б выбрацца веласіпедам з Беластока ў напрамку Фальваркаў, на асфальтоўку, што адхіляецца ў Протасах ад краёвай шашы ў Заблудаў, Бельск, Сямятычы і г. д. Бо ж па гэтай краёвай шашы як у чарзе з кулямёта імчацца шматтонныя грузавыя і пасажырскія „снарады”. І трэба знайсці нейкую больш ціхую дарогу, па якой можна, за ўсімі Фальваркамі, далей прабірацца бяспечна ў напрамку Трасцянкі ці Новай Волі.**



Крыжы ў Кур'янах

На картах такая магчымасць ёсць, толькі трэба было яе зверыць па мясцовасці, а больш канкрэтна — дабрацца цераз Загоркі і Кур'яны ў Протасы. Вёска Загоркі з пачаткам 2006 года была далучана да вялікага горада Беластока, а побач яе проста ў напрамку Кур'ян пралягае цяперашняя Гмінная вуліца. Але пакуль туды...

У выпушчаным у мінулым годзе беластоцкім турдаведніку пазначаны ўсе гарадскія веладарожкі, у іх ліку і тыя, якія былі запланаваны для пракладкі ў тым жа 2016 годзе; адна з іх мела пралегчы па ўсходняй частцы вуліцы Звярынецкай. Восенню яе не было, таму спадзяваўся я яе цяпер. Але тая частка Звярынецкай захавала свой ранейшы выгляд — тратуар з будаўнічых бетонных вялікіх пліт. Вуліцамі Кураня, Карпінскага і Залессе дабраўся я да заблудаўскай дарожнай магістралі, ад якой і ціхенька адхіляецца названая раней Гмінная вуліца. Яна сапраўды гміннага выгляду — насціл яе грунтавы, „зебраў” для пешаходаў да яе няма; але ўдалося туды...

Гмінная вуліца выходзіць з Беластока на цалкам вясковую вуліцу ў Кур'янах, на якой таксама грунтавы спачатку насціл, а пасля крыху бруку і далей, у напрамку краёвай шашы — асфальт. Інтэрнетны даведнік: „**Kuriany to dawna wieś magnacka hrabstwa zabłudowskiego, która w końcu XVIII wieku położona była w powiecie grodzieńskim województwa trockiego. W latach 1660-1662 Zbigniew Morsztyn dzierżawił majątek Kuriany, który był własnością księcia Bogusława Radziwiłła. Według Pierwszego Powszechnego Spisu Ludności w 1921 r. wieś Kuriany liczyła 397 mieszkańców (209 kobiet i 188 mężczyzn) zamieszkałych w 68-u budynkach. Większość mieszkańców miejscowości, w liczbie 315 osób, zadeklarowało wówczas wyznanie rzymskokatolickie, zaś pozostałe 82 osoby podały wyznanie prawosławne. Jednocześnie wszyscy mieszkańcy wsi zgłosili polską przynależność narodową**”. Багуслаў Радзівіл, тагачасны ўладальнік Заблудава, быў адным з пратэстанцкіх лідараў у Рэчы Паспалітай і ў тагачасных войнах трымаў бок шведскіх і брандэнбургскіх уладароў. А вось згаданая шматканфесійнасць векавой даўнасці захаваная на цалкам нядаўна, бо ў 2008 годзе, пастаўленых металічных крыжах пасярэдзіне вёскі. А паміж тымі двума крыжамі пастаўлена структура ў выглядзе аленевага ці ласінага рога — вельмі ж сімвалічная, бо ж бывае, што „рагаты” час ад часу ўмешваецца ў міжкрыжовыя дачыненні...

Бадай у найвышэйшым пункце вёскі стаіць капліца Яна Непамуцкага, а паблізу яе адыходзіць жвіроўка ва ўсходнім напрамку, а ў лесе адыходзіць ад яе грунтавая дарога ў бок Протасаў. А там — асфальтоўка ў Фальваркі і далей. Магчыма, што ў невядомых дарожных лабірынтах прыйшлося б блукаць, але ж цяпер электроніка ўзабралася за хмары, у космас, і цяперашні чалавек кіруецца па прывязі з таго космасу як міфічны Тэзей па нітцы Арыядны...



Касцёл у Юхноўцы

На тапаграфічных картах побач згаданай асфальтоўкі пазначана месца мартыралогіі — гэта былыя звяркоўскія могілкі, дзе быў пахаваны Гаўрыіл Заблудаўскі. Стэнд інфармуе, што Гаўрыіл нарадзіўся ў 1684 годзе, а шэсць гадоў пазней загінуў мучаніцкай смерцю. У 1720 годзе ўспыхнула ў наваколлі пошасць і ў часе паховін была закранута магіла Гаўрыіла. З таго часу пачаліся аздараўленні і яго цела было перанесена з звяркоўскую царкву, дзе праляжала да яе пажару ў 1746 годзе. Тады яго ўцалелыя мошчы былі перанесены ў заблудаўскі манастыр, а ў 1755 годзе ў манастыр у Слуцку. У 1820 годзе Гаўрыіл быў узведзены ў лік святых. У 1930-х гадах слуцкі манастыр быў закрыты бальшавікамі, а мошчы святога трапілі ў мінскі Музей атэізму. У 1942 годзе мошчы святога дзіцяткі Гаўрыіла перанесены былі ў мінскую Праабражэнскую царкву, у 1944 годзе — у гродзенскую Пакроўскую царкву, а ў 1992 годзе ў беластоцкую Мікалаеўскую.

Вёска Звяркі аддаленая ад гэтага месца на нейкі кіламетр. Па вясковай вуліцы пралягае неўгамонная краёвая шаша з Беластока ў Бельск і далей на поўдзень краіны. Гэтая жвавая магістраль рассякае вёску на дзве часці, быццам свайго роду бязвізавая граніца, быццам мора, для якога пераступлення ўсё ж такі можна абысціся без Майсеевага посаха. Падаюся ў напрамку Пасынак. За Пасынкамі бяскрылы вятрак. Быў ён пабудаваны пасля апошняй вайны і малоў збожжа навакольным сялянам да часу, пакуль трывалі яго крылы. А калі крылы паламаліся, то вятрак стаў адно толькі аздобай навакольнага краявіду... За вёскай, побач дарогі з Заблудава ў Юхновец два цэментныя крыжы з 1930-х гадоў: каталіцкі і праваслаўны; абодва з малітоўным зместам.

І каля Кудрыч прашальныя крыжы, адзін з іх, з 1889 года, ахвяраваны дзеля здароўя жывых і за душы памерлых. І каля Германоўкі прашальныя крыжы...

Дамінантным пунктам Юхноўца з'яўляецца тамашні касцёл. Колішні ўладальнік мясцовасці Станіслаў Влошэк так пісаў у 1547 годзе: „Паколькі чалавек створаны дзеля Божай славы, Гасподзь паставіў чалавека не ўладаром усялякіх рэчаў, але іх часовым загадчыкам. Таму я, перад аблiччам Творцы ўсіх рэчаў, гатовы служыць распараджанай мною маёмасцю. Адчуваю патрэбу аддзячыць тым, што абрабляюць зямлю, вызваляючы мяне ад гэтай працы. І калі турбуемся пра ўласнае цела, наколькі ж больш трэба турбавацца за целы тых, якія ствараюць нам тленнае дабро. У падзяцы за гэта ахвяроўваем ім магчымасць крочыць Господнім шляхам дзеля дасягнення вечнай радасці. Шкадуючы тых несвядомых Божага Слова, даступнага дагэтуль толькі нямногім слугам паднявольным розным чалавечым слабасцям, рашаю весці гэты маўклівы несвядомы статак на шлях навучання Касцёла. Жахаючыся за іх душы, хачу ўласнаручна ратаваць іхняе жыццё. (...) Дзеля найвышэйшай славы Найсвяцейшай Адзінай Тройцы, дзеля мацавання набожнасці верных рашаю ў маёй юхнавецкай маёмасці на аснове спецыяльнага дазволу святога каралеўскага маестату касцёл заснаваць і пабудаваць”. Каму былі даручаны праект і пабудова храма — не ўдалося мне дашукацца...

Станіслаў Влошэк ужо 470 гадоў таму падзяліў грамадства на два сацыяльныя класы: адзін з іх меў займацца вырабам зместу для напаўнення страўнікаў, другі — вырабам зместу для напаўнення галоў. Трыста гадоў пазней Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс запрапанавалі некаторы перападзел прапанаванага нашым тутэйшым Влошкам парадку... Аднак адыйсці ад усталяванага вякамі парадку не так лёгка — гісторыя Юхноўца і навакольных мясцовасцей запоўнена ў асноўным прозвішчамі ўладароў і іх узаемных сямейных дачыненняў; пра падзеі, якія пакінулі свой след у краявідзе — значна менш.

Касцёл быў узведзены пры колішнім рынку, з якога выходзілі дарогі ў розных напрамках; цяпер з гэтага месца таксама выходзяць дарогі ў навакольныя мясцовасці, толькі ад рынку і след не астаўся. Адна з дарог выходзіла ў напрамку Харошчы; яна захавалася па сённяшні дзень, так як і дарогі ў Сураж, Кажаны і Заблудаў. Побач дарогі ў Харошчу ў 1671 годзе былі закладзены могілкі, дзе ў 1880-х гадах была ўзведзена намагільная капліца роду Навіцкіх. Гэта адметнае збудаванне, толькі вось не ўдалося мне знайсці прозвішча яго аўтара. А вось пра Навіцкіх асталася легенда, што калі хавалі аднаго з іх, то навакольныя сяляне распалілі смалу ў бочках дзеля прадэманстравання патойбаковага лёсу сваіх паноў — што трапяць яны, бязлітасныя паны, у вогненную пякельную смалу...

Да Навіцкіх доўгі час панаваў у юхнавецкіх уладаннях род Лявіцкіх, ад якіх узяла назву і суседняя з Юхноўцам мясцовасць. А ад тае мясцовасці ўзяла назву і чыгуначная станцыя на пракладзенай побач у 1873 годзе Берасцейска-Граеўскай чыгунцы. Хацеў я заглянуць на тую станцыю, але ў мой час пляц побач станцыі быў засыпаны шчэбенем пад аднаўленне гэтай чыгуначнай лініі, а машыны выгружалі з вагонаў чарговыя тоны гэтай матэрыялу.

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Крыжы каля Пасынак

# Засталіся адно ўспаміны (3)

Першы рабочы дзень працы ў ВПК я пачаў 3 лістапада 1962 года. Ранішнім цягніком я адправіўся ў Беласток. Па законе працаўнікі кінаперасовак першага тура пачыналі работу а сёмай зранку. Кожны член брыгады афармляў справы ў сваім аддзеле. Кіраўнік браў білеты і маршрут у сектары распаўсюджвання, затым камандзіроўкі для трох чалавек у аддзеле кадраў. Кінамеханік правяраў апаратуру ў майстэрні, браў у ЦВФ кінастужкі, а шафёр афармляў дакументы ў аддзеле транспарту з кіраўніком Білевічам, браў тэхнічны пашпарт і карты працы на дваццаць чатыры дні (на кожны дзень прызначалася адна карта працы, дваццаць чацвёртая — на з'езд у базу). Карты лічыліся фармулярамі строгага разліку. Выязджалі з пляцоўкі ВПК з вуліцы Новы Свят каля адзінаццатай гадзіны. Перад гэтым адбывалася праверка брыгад адміністацыйнымі кіраўнікамі, якія распісваліся на «карце спраўнасці». Без падпісанай карты ніхто не меў права выязджаць у камандзіроўку. Затым павінны былі віднець пячаткі сектара транспарту, інспектара БГП, тэхнічнай майстэрні і сектара распаўсюджвання. Навінкай было, што інспектар БГП карыстаўся «балёнікамі» для праверкі стану цвярозасці шафёраў.

З таго што прыпамінаю, спіс вёсак для нашай кінаперасоўкі налічваў пяцьдзясят тры сёлы. У Нарваўскай гміне былі гэта Іванкі-Рагозы, Янова, Гародчына, Соцы, Ласінка і Трывежа; у Чыжоўскай гміне: Камень, Ласінка; у Гайнаўскай: Барысаўка, Рэпіска, Навасады, Арэшкава, Новакорніна, Чыжыкі; у Белавежскай: Буды, Тэраміскі; у Дубіцкай: Дубічы-Царкоўныя, Вітава, Чахі-Арлянскія, Старына; у Кляшчэлеўскай: Палічна, Дабрывада, Дашы, Сухавольцы, Сакі; у Арлянскай: Малінікі, Пашкоўшчына, Спічкі, Кошкі, Вулька-Выганоўская, Дыдулі; у Бельскай: Пілікі, Дабраміль, Кнарыды, Мокрае, Дубяжын, Пасынкі, Локніца, Кожына, Зубава, Катлы, Кнаразы, Райкі, Страбля, Аўгустова; у Боцькаўскай: Краснае-Сяло, Малочкі, Быстрае, Пятрова-Кшываколы; у Заблудаўскай: Паўлы, Цялушкі, Давідавічы і Войшкі. У Чаромхаўскай гміне заязджалі адно ў Кузаву і толькі тады, калі я пахадайнічаў за рэгістрацыяй святліцы ў Гайнаўскай пажарнай камендатуры.



■ Вася Саўчук (злева) з Апакі-Вялікай. Рэкамендаваў яго на шафёра і працаваў праз два гады пачаткова на павеце Замбраўскім, затым Бельскім. Пасля звольніўся і перавёўся у ПКС, дзе працаваў шафёрам. Зараз вядомы ў Чаромхаўскай гміне канявод. Яго статак налічвае з маладняком каля сямідзесяці штук. Справа — аўтар побач кінаперасоўкі, гады 1965 - 1966.

Кінасеансы дэманстраваліся перш за ўсё ў школах і святліцах. Для кожнай залы была прызначана колькасць месцаў. Па правілах супрацьпажарнай аховы на аднаго гледача прызначалася 0,80 квадратнага метра. Забаранялася прыстаўляць рухомыя крэслы, курыць папяросы ў час праекцыі фільма. Абавязкова пры праектары павінен быць снежны вогнетушыцель і азбеставы плед. У шасцідзясятыя гады школы змяшчаліся ў невялічкіх драўляных памяшканнях, якія маглі змясціць адно 35-55 гледачоў. Месцамі для сядзення былі школьныя парты. У зімовы час міналі мы сёлы з неабаграванымі святліцамі. У вёсках, дзе прыходзіла шмат гледачоў, напрыклад у Дабрывадзе, Кнарыдах ці Малочках, святліцы, хоць былі неабагрэтымі, мы заязджалі па просьбе жыхароў, а нашы начальнікі з ВПК глядзелі на гэта прыплюшчыўшы вока. З лістапада ўпершыню я завітаў у Іванкі-Рагозы. На адвячорку высветлілі два сеансы для дарослых, а наступнага ранку — ранішнік для школьнікаў. Настаўнікі намагаліся, каб дзеткі поўнымі класамі ўдзельнічалі ў кінасеансах, бо пасля пісалі сачыненні. Хто з дзетак не меў грошай, настаўнікі пазычалі. Так практыкавалася ва ўсіх школах. Чарговай вёскай па маршруце быў Камень.

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК




Увосень мінулага году ўпершыню за доўгія гады адсутнасці іншадумцаў у беларускім парламенце там з'явіліся дзве жанчыны, якіх атаясамліваюць з дэмакратычнай апазіцыяй. Гэта Ганна Канапацкая з Аб'яднанай грамадзянскай партыі і прадстаўніца Таварыства беларускай мовы (ТБМ) Алена Анісім. На шчырасці кажучы, з'яўленне гэтых жанчын у парламенце, выбары ў які раз-пораз абвяшчаюцца несправядлівымі і непразрыстымі, выклікае сумнеў у сапраўднасці іх электаральнай перамогі. Аднак паколькі не было нейкіх сур'ёзных рухаў, каб аспрэчыць вынікі галасавання за Канапацкую і Анісім, прынята лічыць, што ўсё было па-сапраўднаму.

Алена Анісім, якая праз усё сваё жыццё рупіцца пра беларускую мову і культуру, сёлета адкрыла ўласны сайт у інтэрнэце. У сваім віртуальным прадстаўніцтве, што месціцца па адрасе **http://anisim.by**, дэпутатка распавядае пра свае планаваныя намаганні ў рэалізацыі беларускамоўных памкненняў.

„Місія, якую я абрала для сябе падчас дэпутацкай працы, застаецца той самай, што і ў ТБМ: дабівацца максімальна поўнага выкарыстання беларускай мовы як дзяржаўнай ва ўсіх сферах нашага жыцця. Для гэтага я найперш і засяродзілася на пытаннях беларускамоўнага афармлення заканадаўства і адкрыцці Нацыянальнага ўніверсітэта з беларускай мовай навучання. Бо акрамя мяне, наўрад ці хто будзе займацца гэтым у Палаце прадстаўнікоў", — адзначае Анісім на галоўнай старонцы свайго сайта. Там жа размешчана яе праграма, дзе дэпутатка прапісала жаданне стварыць ва ўсіх раённых цэнтрах Беларусі як найменей адну беларускамоўную гімназію.

На галоўнай старонцы вядзецца адлік часу, прайшоўшага з таго моманту, як Анісім пачала засядаць у парламенце. На момант напісання артыкула ўжо прайшло больш за чвэрць дэпутацкага тэрміну, праўда аб значных дасягненнях у развіцці, у прыватнасці, беларускамоўнай адукацыі ў Беларусі, дзякуючы гэтай прадстаўніцы ТБМ, чуваць пакуль не давялося. Застаецца спадзявацца, што нешта ёй удасца зрабіць за астатнія тры чвэрці дэпутацкага тэрміну.

Алена Анісім не цураецца сустрэч з народам у адрозненні ад іншых калег па зале пасяджэнняў. Больш за тое, яна выбірае вельмі нязвыклыя месцы для такіх сустрэч. Паводле інфармацыі, змешчанай на сайце, такія сустрэчы могуць быць праведзены нават у электрычным цягніку. „Людзей хвалюе тое, што беларуская мова сыходзіць з абароту, што маладое пакаленне не ў такой ступені адчувае сябе беларусамі, у тым ліку і таму, што дрэнна валодае беларускай мовай", — робіць выснову дэпутатка пасля адной з такіх сустрэч. Згодна праграмы Анісім, яна імкнецца, каб на працягу бліжэйшага тэрміну быў прыняты закон аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы.

„Мяне хвалюе ўсё, што тычыцца нашай Беларусі, умацаванне яе дзяржаўнасці, яе лёс як незалежнай краіны. Вырашыць гэтыя пытанні, на маю думку, немагчыма без перагляду ўнутранай палітыкі, змены адносін да свайго народа з боку ўлады на паважлівыя", — адзначае дэпутатка на сваім сайце, дзе таксама размешчана форма непасрэднага звароту да яе.

Больш даведацца пра Алену Анісім дае магчымасць гіперспасылка „Біяграфія", што месціцца ўнізе цэлага выяўлення. Праўда, яна вядзе не да адпаведнай старонкі сайта, а пераводзіць на Вікіпедыю.

Падрыхтаваў **Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

**ДАТА З КАЛЕНДАРА** **ДАТА З КАЛЕНДАРА**

ДАТА З КАЛЕНДАРА

ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА

Беларускі паэт са Слонімшчыны



## 105 гадоў з дня нараджэння Анатоля Іверса

Беларускі паэт Анатоль Іверс (сапраўднае прозвішча Іван Міско) нарадзіўся 15 траўня 1912 г. у вёсцы Чамяры на Слонімшчыне. Паходзіў з сялянскай сям'і. Маці вяла хатнюю гаспадарку, бацька часта працаваў на будаўніцтве дарог і мастоў. У час Першай сусветнай вайны сям'я ў 1914 г. выехала ў бежанства, была пад Кіевам. Вярнулася адтуль толькі ў 1918 г. Бацька Дарафей пэўны час быў сакратаром валаснога камітэта, таму быў пад наглядам паліцыі. Чытаць па-руску Івана навучыў бацька, потым некалькі месяцаў хлопчык вучыўся ў мясцовай беларускай школе, але яе зачынілі.

У 1926 г. ён паступіў у Віленскую беларускую гімназію. За ўдзел у заходнебеларускім вызвольным руху быў выключаны з Віленскай (1928 г.), Клецкай (1929 г.) і Навагрудскай (1931 г.) гімназій. Паліцыя некалькі разоў арыштоўвала паэта, яго дапытвалі і каталі ў пастарунку і дэфензіве, тры разы судзілі за ўдзел у дэманстрацыях і супраціў уладам пры затрыманні. Невялікія тэрміны зняволення падпадалі пад амністыю. З 1931 г. жыў у родных Чамярах пад наглядам паліцыі. Пачаў пісаць пад псеўданімам Анатоль Іверс, адсылаючы творы ў тагачасную беларускую прэсу (псеўданім следчыя так і не раскрылі). З 1935 г. служыў у Войску Польскім, тады ж трагічна загінула маці паэта — яе забіў памешчык. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР працаваў літаратурным работнікам слонімскай раённай газеты „Вольная праца" (1939-1941 гг.). У час Другой сусветнай вайны — адзін з арганізатараў падпольнага антыфашысцкага руху, з лістапада 1943 г. — партызан брыгады імя К. Ракасоўскага, у сакавіку 1944 г. абраны сакратаром Слонімскага міжраённага антыфашысцкага камітэта. Выдаваў антыфашысцкую падпольную газету „Барацьба".

Вайна прынесла новыя асабістыя трагедыі. Жонка Анатоля Іверса загінула ў Калдычаўскім лагеры, брат — у фашыстамі. У пасляваенныя гады савецкія ўлады доўгі час не прызнавалі слонімскую падпольную арганізацыю, Анатоля Іверса некалькі разоў беспадстаўна звальнялі з працы. Потым ён працаваў у Слонімскім гарадскім савеце, у рэдакцыі раённай газеты „За перамогу камунізму", у лесахімічнай прамысловасці. У 1976-1984 гг. — сакратар слонімскага раённага аддзялення Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Жыў у Слоніме. Быў знаёмы і шчыра сябраваў з Аляксандрай Бергман, Сакратам Яновічам, Віктарам Шведам, Міхасём Хмялеўскім, Георгіем Валкавыцкім і іншымі творчымі людзьмі беларускай прасторы Польшчы.

Як паэт Іверс дэбютаваў у друку вершамі ў 1934 годзе. Аўтар зборнікаў паэзіі „Песні на загонах" (Вільня 1939), „З пройдзеных дарог" (1970), „Жыву ў бацькоўскім краі" (вершы і паэмы, 1982), „Я пайшоў бы ўслед за летам" (1987). Рэвалюцыйна-вызвольная тэматыка ў творах паэта глыбока звязана з асобай чалавека, грамадзяніна, гераічныя матывы пераходзяць у лірычныя, зліваюцца ў кранальны напеў пра лёс народа, якому даводзіцца перадольваць гістарычную несправядлівасць, наладжваць новае жыццё. Друкаваўся ў часопісах „Беларускі летапіс", „Калоссе", „Асва" ды іншых.

Памёр Анатоль Іверс 26 кастрычніка 1999 г. у Слоніме. Пахаваны на гарадскіх слонімскіх могілках. Яго імя мае толькі літаратурнае аб'яднанне пры раённай газеце. Прапановы і спробы да 100-годдзя паэта назваць яго імем адну з бібліятэк горада ўлады не падтрымалі. У 2011 г. Сяргей Чыгрын уклаў зборнік твораў і ўспамінаў Іверса пад назвай „Аўсяныя росы", які надрукаваны рупнасцю ўнука паэта — Аляксандра Міско.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Укралі «Чырвоную Армію»?



Аб «Учарашніх вуліцах» пісаў я ў «Ніве» ад 11.12.2016 года. Закон аб дэкамунізацыі абавязвае гмінныя ўправы прыняць рашэнні наконт змены назваў вуліц да 1 верасня 2017 года. У Орлі вуліца Чырвонай Арміі і справа так Гміннай радзе як і жыхарам гэтай вуліцы вядомая; ніхто нават не супраціўляецца. Былі паведамленні на стэндзе і на гмінным сайце, справа ставілася на сходзе жыхароў з удзелам войта Пятра Сэльвесюка. Неафіцыйна гаворыцца, што вуліцы будзе вернута ранейшая яе назва — Пасвентная. У ціхім, спакойным мястэчку Орля ўсё было нармальна да раніцы 27 красавіка.

Пасля поўначы 27 красавіка сцішка, палахліва і нянавісна нехта, а нават вядома хто — вонкавая група нарадоўцаў, панішчыла некалькі ўказальнікаў, на якіх была назва Чырвонай Арміі. Злачынцы павыгіналі тоўстыя трубкі і абрэзалі выключна тыя дошчачкі з назвай Чырвонай Арміі. Яны, відаць, добра ведалі як да іх дабрацца і якія прыборы трэба прымяніць каб іх дэмантаваць. Фінансавыя шкоды можа і не вялікія ў гмінным маштабе, але дастатковыя пад параграф. Усё ж такі падзея выклікала непрыемныя пачуцці ў жыхароў. Каментаваць гэтага няма сэнсу; кожны чалавек сам выпрацоўвае сведчанне пра сябе.

Тэкст і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**

# Памінальная нядзеля

Спрадвечна доўжыцца традыцыя, што вернікі Праваслаўнай царквы пасля Пасхі адзначаюць Провады. Гэты абрад не ў кожным прыходзе праходзіць у аднолькавым тэрміне. У Кузаве, напрыклад, на могільніку за памерлых суродзічаў разам са святаром моляцца ў першую нядзелю пасля Вялікадня. У суседняй Чаромсе — у наступную. Гэтага апошняга тэрміну мы з дочкамі і ўнукамі прытрымліваемся, паколькі наша светлай памяці Анна Сцяпанаўна, мая жонка а маці дочак і бабуля ўнукаў, значыцца, на чаромхаўскім могільніку пакоіцца.

30 красавіка стаяла пераменнае надвор'е. Праз неба закрытае хмарамі час ад часу прабівалася сонца. Адчуваўся пранізлівы халодны ветрык. Але храм Іконы Божай Маці «Замілаванне» ў Чаромсе-Станцы быў забіты вернікамі. Набажэнства доўжылася з дзявятай раніцы да абедняга часу. Затым прысутныя падаліся на могільнік. Мы заехалі перад 13-й гадзінай. Стаянка была шчыльна застаўлена аўтамабілямі са знакамі гайнаўскай, бельскай, беластоцкай, варшаўскай, а нават беларускай рэгістрацыі. Знайшлі мы вольны куточак непадалёк уязных варот. Могільнік па-святочнаму патанаў у рознакаляровых кветках. Побач магілак гуртаваліся сямейнікі памерлых. Мы з дачкою Ірэнай і ўнукам Давідам спыняемся побач надмагільнай пліты з каляровым фота супругі і надпісам: «Sidoruk Anna — zm. 28.12.2007 r. żyła lat 71. Pokój Jej duszy». Згаварыўшы малітву, сядаю на лавачцы. Дачка запальвае лампадкі. Час марудна доўжыцца ў чаканні. Ладжу сяброўскую размову з Віталікам Віхоўскім, які, як і я, прыйшоў памаліцца за ўпакаенне душы сваёй жонкі. Разам працавалі тэхнічнымі канторшчыкамі ў Семяноўцы. Зараз мы абодва пенсіянеры. Сябры па нядолі.

Сёлетняе маленне на чаромхаўскім могільніку праводзілі мясцовыя святары а. Мікалай Беламызы і а. Анатоль Ярмасюк, а таксама а. Рыгор Навумовіч з Кузаўскага прыхода св. Варвары. З намі маліўся а. Анатоль Ярмасюк пасля паўтарагадзіннага чакання. Згаварыўшы малітву, падаемся да выхаду. Мой сябрук Віталік застаецца. Чакае бацюшку.

**(ус)**



Фота Янкі Целушэцкага

З глыбокім смуткам паведамляем, што на 94-м годзе жыцця памёр **Уладзімір Клімюк** з Плянты Нараўчанскай гміны — шматгадовы ніўскі карэспандэнт. Сям'і памерлага з прычыны напаткаўшага іх гора выказваем словы шчырага спачування.

**Рэдакцыя**

## „Ніва” — ваш найлепшы прыяцель

# Мы з „Нівай”

У некаторых вёсках Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета „Ніва” карыстаецца даволі вялікай зацікаўленасцю. „Ніву” № 18 ад 30 красавіка гэтага года ў Новым Ляўкове і ў Плянце Нараўчанскай гміны купілі, між іншым, Валянціна Самойлік (настаўніца на пенсіі), Марыя Янель, Віталь Скепка (мой былы вучань Пачатковай школы ў Старым Ляўкове), Аляксандр Скепка і мой брат Канстанцін Целушэцкі. Я прывёз у Новае Ляўкова апошні экземпляр роднага часопіса, які ўдалося мне купіць 3 мая ў краме „Аргелян” у Нараўцы. Я вяртаўся ў Новае Ляўкова на ровары і нават крыху прамок, бо ў лесе каля Плянты дагнаў мяне дождж. Пасля поўдня 3 мая ў Нараўцы адкрыта была адна крама і ў ёй астаўся ў продажы ўсяго адзін экземпляр „Нівы” і я яго купіў.

Дзевятнаццаты нумар роднага часопіса ад 7 мая гэтага года ў Альхоўцы, Лешуках, Новым Ляўкове і ў Плянце прачыталі Мікалай Варанецкі, Галіна Бірыцкая, Вера Клімюк, Лена і Мікалай Харкевічы, Ірэна Казлоўская, Людміла і Барыс Казлоўскія, Мікалай Скепка, Галіна і Аляксандр Скепкі, Вольга і Віталь Скепкі, Раман Марчук, Анна і Ян Целушэцкія, Зіна Рубчэўская, Марыя і Канстанцін Целушэцкія, Ірэна Ігнацюк, Яраслаў Ігнацюк, Лідзія Казлоўская, Зіна Сахарчук, Марыя Крышань, Лідзія і Юрка Трусевічы, Зіна Садоўская і Альжбета Кунцэвіч. Вось столькі прозвішчаў вядомых мне чытачоў гэтага першага майскага нумара!

У гэтым нумары пятнаццаць цікавых артыкулаў, допісаў і фельетонаў, ёсць рэпартажы і даволі многа фотаздымкаў. У ім можна прачытаць новыя вершы Мікалая Варанецкага з Альхоўкі Нараўчанскай гміны, успаміны Уладзіміра Сідарука з Кузавы каля Чаромхі ды запрашэнне грамадзян Польшчы да ўдзелу ў сёлетнім XX Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы.

Нашы чытачы — людзі адкрытыя і неабыякавыя да беларускай мовы. Яны чытаюць беларускі штотыднёвік, між іншым таму, каб не развучыцца чытаць і пісаць па-беларуску. „Ніву” трэба купляць і чытаць. Беларускі тыднёвік найбольш ды цікава піша пра нас, беларусаў ды пра важнейшыя падзеі на Беласточчыне.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# 14.05 — 20.05

**(22.03. — 20.04.)** 14-15.05. выйграеш у справе, якая здавалася быць без шанцаў. 17-20.05. не будзь прагны ані жадлівы. 18-20. не давай падстаў свайму партнёру да ніякіх падазрэнняў. Паправасі прабачэння ў кагосьці, даўно абражанага. На працы станеш маторам розных калектыўных пачынанняў. Калі шукаеш працу, глядзі, каб не трапіць у новай як з агню ды ў полымя. Добра паспіш, пасля ранейшага моцнага высілку.
**(21.04. — 21.05.)** Многа цяжкіх спраў ужо за табою. Не наракай і не бойся паразы. Не можаш есці, спаць ды засяродзіцца? Гэта не хвароба — гэта закаханасць! Дома тваё панаванне можа быць пад пагрозай. Ды большая ўлада — большыя абавязкі. Можа трэба будзе рэвізаваць свае планы 15-19.05. Беспрацоўны Бык няхай не перастае актыўна шукаць працу. Правер сваю шчытавідку (тарчыцу).
**(22.05. — 22.06.)** 14-16.05. пачуеш заслужаныя словы прызнання. Лёс табе спрыяе. Будзеш баявіты, самаўпэўнены. Шанцы на пашырэнне кола знаёмых. Не абыходзь кругом дом, цікаўся, што там адбываецца. На працы не злуйся, не кідай дакументамі, не рызыкуй і не бравурнічай, асабліва калі табе блізка да пенсіі. Абмяжуй спажыванне гатовай купнай ежы.
**(23.06. — 23.07.)** Новыя інтэлектуальныя выклікі, запрашэнне ў падарожжа. Самотны Рак: не ўздыхай у куточку, мусіш выйсці, паказацца, каб цябе прыкмецілі. Але без адчаю! На працы ці ў школе будзь акуратным, дбай аб паперы, адрасы, даты. Звяртай увагу на канкурэнцыю. З 17 (да 21.05.) старайся не спрачацца, асабліва з кіраўніцтвам. Еж спаржу (шпарагі).
**(24.07. — 23.08.)** Лёс да цябе шырока ўсміхаецца. 14-15.05. пераможаш кожную перашкоду. 17 (да 21.05.) не шукай вінаватых, а хутка папраў памылкі. Пра твае дасягненні (асабліва калі ты з другой дэкады) будзе гучна не толькі ў фірме; можа цябе таксама падабраць канкурэнцыя. Хаця 15-19.05. можаш сам адчуць сваю меншую прадуктыўнасць, дык не шкадуй сабе адпачынку. Прымяняй алей з аслінніку (вясёлка).
**(24.08. — 23.09.)** Лёс кіне цябе на глыбокую ваду, спраўна паплывеш. Заззяеш у асяроддзі. Ад 16 мая можаш пачаць давучванне, курсы, новы дыплом. Асцерагайся сілавых вырашэнняў! Калі чакаеш заручальнага пярсцёнка, дай яшчэ даспець да гэтага рашэння партнёру. Сустракайся, сярод новых знаёмых знойдзеш брата па душы. Дбай аб штодзённую фізічную актыўнасць.
**(24.09. — 23.10.)** 14.05. можаш добра зарабіць. 17-21.05. пераканаешся, што не ўсё золата, што блішчыць. Не будзе больш няўпэўненасці, складаных сітуацый. Добры ўплыў зорак на твой рахунак. Большая матывіроўка, добры ўзровень энергіі. Магчымыя любоўныя прыгоды. Добрыя весткі. Добра справішся на экзаменах, кваліфікацыйных размовах. Хутчэй выдаткі, чым прыбыткі (касай лепш заапякуецца партнёр).
**(24.10. — 22.11.)** Усё можа ўдацца, нават тое, што здаецца быць немагчымым. Асабліва пасля 16 мая будзеш мець падтрымку ў афармленні важных спраў. З 16.05. таксама ўвойдзеш у гульню (можаш пачаць свой бізнес). Калі ты нарадзіўся ў кастрычніку, не адкладвай паступлення ў школу, на дыплом. Скарпіён з другой дэкады: не будзь зайздросным! Змовы, інтрыгі — але хутчэй яны ў тваёй уяве. Але пільнуйся ў інтарэсах са сваякамі.
**(23.11. — 22.12.)** 14.05. ўдадуцца далёкія планы. 14-16.05. вельмі добра ва ўсялякіх адносінах. Лёгка справішся з праблемамі. Толькі не бравурнічай, будзь асцярожны, дасягнеш мэту дробнымі крокамі. 15-19.05. на працы трэба будзе да чагось вярнуцца, паправіць яго; не злуйся і не забывай, што шэф мае рацыю. Шукаючы новую працу, глядзі таксама на задавальненне з яе. Рэдка ў тваім кашальку засвеціцца дно: хутка ўсё адробіш, падзарабіўшы ці зайграўшы ў латарэю! Калі ты са снежня, лепш не ідзі цяпер на аперацыю.
**(23.12. — 20.01.)** Можаш рэалізаваць свае важныя задумы. З 16.05. адчуеш прыхільнасць лёсу. Пакажы сваю ўражлівую душу. 15-19.05 трэба будзе аказаць падтрымку, асабліва дзецям. Трапна адменіш інтэр'ер. Будзеш ашчадны, нават скупаваты, са злосцю заўважыш, што 17-21.05. праваронііў нейкую «аказію», ды не перамайся, гэта не такія залатыя горы, якія ты ўяўляў. Цяпер варта ўдала пачаць худзець.
**(21.01. — 19.02.)** 14.05. адкрыюцца перад табою важныя дзверы. 15-19.05. сходзі да лекара. Вельмі пільнуйся 17-21.05., каб не зрабіць памылку, якую цяжка будзе выправіць. Будуць шчаслівыя выпадкі, геніяльная інтуіцыя, ахвота ўзяцца за амбітныя задумы, рэальна ацаніўшы свае шанцы. Не занядбоўвай сяброў, бо пасля 16.05. зараіцца ад ворагаў. Але з 17.05. (да 21.05.) можаш спадзявацца большых грошай!
**(20.02. — 21.03.)** 15-20.05. могуць турбаваць цябе знеахвочанне, трывога, неспакой. Але ж ад 16.05. выклікаць будзеш прыхільнасць да сябе людзей (хаця неабавязкова каханых). Уключы сяброў і сваякоў у супольную справу. Можаш стаць медыятарам у нейкай сямейнай праблеме. Калі хочаш памяняць працу, не палі за сабой мастоў. Кашмарны час для алергікаў, не забывайся пра лекі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**1.** карціна, на якой паказаны неадушаўлёныя прадметы, **2.** ільдзіна на рацэ, **3.** геаметрычная фігура з шасцю квадратнымі гранямі, **4.** травяністая расліна з ядавітым белым сокам, у якой... чай, **5.** драўляная пасудзіна для заквашвання цеста, **6.** пасудзіна для адкорму свіней, **7.** горад на акраіне Белавежскай пушчы, **8.** гультай, што разгульна жыве.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаных дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**



Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 17 нумара**

Веліж, Давід, Ібсен, Нежын, Шо, Ян.

Рашэнне: **Вясенні дождж лішні не бывае**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Уладзіміру Цілюльку** з Саколкі.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.



**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (85)



■ Канал за Гушчай , які нясе ваду адсочаную ад крыніц Прыпяцці да Буга

Дзе рака? Яна пайшла ў той бок! — баба Галя паказала рукой на лес, на ўсход. — І там трэба шукаць Прыпяці, за той дарогай, што недалёка Палажэва.

Гэтае месца, пра якое гаварыла баба Галя, я ўжо наведала чатыры разы ды ніколі не падумала пра яго як пра пачатак ракі. Той глыбокі, паўсухі роў, абкладзены па берагах бетонам, здаваўся застылым і мёртвым. Праўда, тут рака першы раз азначаная і падпісаная. Але нават дурны ў пошуках крыніц будзе кіравацца на захад, у бок Палапоў, Забалацця, Гучшы і Буднік. Якраз у наваколлі Буднік пазначаны фармальны пачатак Прыпяці. На месцы, аднак, чакала чарговая складанасць.

— Бо тыя каналы зрабілі з многіх прытокаў, — кажа баба Галя, — і яны пайшлі ў два бакі.

Прыпяць нараджаецца з лясных балот, прытокаў і вадзяных цёкаў у заходняй частцы Любомльскага раёна. Якраз тут ідзе водападзел між Балтыйскім і Чорным морамі. Водападзел пазначаны крутагор'ем. Яно фізічна закрывае дарогу вадзе на захад, то-бок у Буг. На карце крутагор'е напамінае кшталтам падкову. У сярэдзіне гэтай «падковы» ляжаць менавіта Буднікі. Раней уся вада сцякала адсюль уніз, на паўночны ўсход і там станавілася Прыпяццю. Аднак у выніку меліярацыі водападзел штучна перасечаны. Баба Галя назвала закуткі, ад якіх пайшлі імёны прытокаў каля іх вёскі. І вось прыток з урочышчаў *Каралёвэ, Ніжнівэ, Старына*, накіраваныя каналам у Буг. А апошнія: *Згадка, Пэтрыліх і Близневске* пайшлі на ўсход і яны менавіта ў выглядзе канала далі пачатак Верхняй Прыпяці.

Ад пачутага балелі мазгі. Як вядома, нашы продкі тэрыторыю водападзелаў лічылі сакральнай зонай. Тут дзейнічалі іншыя правілы гравітацыі і выцякалі гаючыя крыніцы. Звычайна ў такіх месцах пражывала шмат вядуноў, магаў, чараўнікоў.

У Будніках я адчувала сябе так, быццам у мяне размагніціліся мазгі. Ужо адна думка пра жорсткую аперацыю на ўлонні водападзелу даводзіла да галавакружэння і дэзарыентацыі. Загнаная ў каналы пад лінейку вада, замест парадкаваць метафізічную прастору, наклікала балючы хаос як пры біблейскім стварэнні свету. На дадатак той штучны пачатак Прыпяці ў народзе абыходзяць шырокім колам. Месца лічаць праклятым. Той, хто намерыўся даплысці да канца канала, за свой неразважны крок мог заплаціць жыццём.

* * *

Але баба Галя была поўнасцю зжытай з мясцовым балотам і лесам. Яна ведала як знайсці сябе на самых хісткіх і небяспечных трапінках. Жанчына з цеплынёй распавяла пра ваўка, які завёўся непадалёк Буднік.

— Свой воўк ніякай шкоды не зробіць, — заявіла яна з жалезнай упэўненасцю. — Ён жа палюе дзесяць кіламетраў ад свайго логава. А іншыя ваўкі на яго тэрыторыю не ступяць, яны трымаюцца сваіх месцаў. Праўда, пасля Чарнобыля і ваўкі прыдурэлі. Часам забягаюць ажно сюды і без патрэбы рэжуць дабытак. У лесе таксама звярына яшчэ не звялася. Ёсць козы, ласі, алені і дзікія кабаны, ад якіх проста не адагнацца. То наш воўк не дапусціць іх да сяла, а так бы ўсе агароды зламаталі...

Цёплы расказ бабы Галі пра ваўка падаваўся казачным. Яна — дачка лесніка, першыя гады жыла на хутары. Але прафесія бацькі наклікала на сям'ю вялікае гора. Яе дзяцінства праходзіла пад знакам сталінскіх рэпрэсій. Бацьку вывезлі ў Сібір, нібыта за спрыянне байцам УПА.

— А ён быў звычайным лесніком, — кажа жанчына. — Ён не прыставаў з тымі *бандэрамі*. Вывезлі, бо ўсіх тых, што працавалі ў лесе, перасялілі.

Разам у ссылку трапіла ўся сям'я сястры бацькі. Галава той сям'і таксама быў лесніком. Расстанне каштавала мора слёз. Усё чакалі пісем, вестак. Яна так і не дачакалася бацькі. А дар замоваў перадаў ёй, наймалодшай у сям'і, дзед. Спачатку не ведала што з ім рабіць, але з гадамі ўсё вярнулася і спрацавала...

Бо калі прыйшла ў Буднікі меліярацыя, Галі было трыццаць пяць гадоў. Людзі не ведалі, што думаць пра асушэнне балот. Кожны прывык да свайго балота, ды яшчэ больш да свабоды, якой найлепш умеюць карыстацца і цешыцца людзі лесу. І нават у савецкія гады яны мелі такое адчуванне, быццам увесь лес належаў адным ім. Хто куды хацеў, то і выганяў



■ Буднікі, цэнтр

у любы закутак кароў або коней на папас. Таксама дзе хацелі касілі *купіны*.

Той, хто першы займе кусок сенажаці, дык яго сабе косіць. І ўсім хапала месца.

Ці адчувалі нягоды і страты ад вады, якая асабліва вясной залівала палову вёскі? Нават каля хаты Русланы выбівае прыток, ад якога летам віднее працяглая яма. Якраз вада прывяла і заставіла людзей пасяліцца ў гэтым месцы. Як кажа легенда, сяло заснаваў бежанец, які хаваўся ад праследу і толькі тут, сярод непраходных балот, на сухім грудку, паставіў свой будан. З часам пасяліліся іншыя і мясціна разраслася. Сёння тут да трохсот жыхароў. Найбольшы росквіт выпаў на калгасны перыяд. На асушаных палетках



■ Баба Галя з Буднік

сеялі збожжа і лён. У аборах гадавалі быдла, свіней, птушак. Баба Галя трымала ўвесь дабытак пад кантролем. Як калгасная бухгалтарка займалася яшчэ лагістыкай і дзе толькі магчыма шукала дапамогі і датацый. Але не сумуе па тым часе. Больш хвалюе яе перасыхаючы лес.

— Ад вады не было вялікай шкоды, — кажа. — Часам яна залівала агароды і не было бульбы. Затое ў лесе было ўсё! А грыбоў было столькі, што не пералічыць, не расказаць...

* * *

Спачатку, здавалася, што меліярацыя абыдзе Буднікі бокам. Ды самі людзі бяздарна назіралі ўвесь закалот, той-сёй прарочыў на месцы балота пустыню.

— Ніхто нас не спытаў ці асушыць балота, — кажа баба Галя, — ніхто не патрабаваў нашай згоды. Тыя, што капалі равы экскаватарамі, таксама не хацелі гаварыць лішняга.

Толькі адзін інжынер аднойчы сказаў цэлую праўду:

— Ваду дык мы забярэм вам вельмі хутка, але павярнуць назад яе ўжо ніхто не паверне!

Так і збылося, але рака паплыла...

На развітанне баба Галя абдаравала нас вінаградам са свайго агародчыка. Яна сказала таксама замову перад злым вокам. Мы тады яшчэ не ведалі, што прыйдзецца наведаць праклятыя і ахінутыя чорнай славай месцы.

А замова ад злога вока — на старажытнабеларускай мове. Такіх я нідзе больш не сустрэла. Перад *малітвай* трэба сказаць тры разы *Отчэ наш:*

Ішла Божа Маты
Лековаты хворого
От уроку больного
Раба божаго
(*сказаць як называецца*)
Што б тые ўрокі
З нёго сышлі
Як стрэла с промэні
Ясного сонца на зэмлю
Так шчоб воны вышлі
От мого вымовлення
Прошу помошчы
От Духа Святого
На всякое добрэ дізло
Чы от міэсця пустого
Чы от вітру ліхого
Чы от чоловека лукавого
Чы от працы тяжкой
Чы от болезні горкой
Господі ізжэні і отділі
Духом твоім святым
Найвышша Панна Марыя
Божа служэніца
Оддай нам волю урочнаго
Будэш нам помочніца
Панна хваленна
Богом славленна
Стань нам до помочы
Будэш прославлена
*Во імя Отца і Сына і Святого Духа, амін!*

(працяг будзе)

❖ Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960